


Рэгіянальная газета. Rh.by
25 год мы з вамі!
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».
14 лютага 2020 года №7 (1294)
18+





# Віншуем чытачоў з Днём закаханых!

## Тры гісторыі маладзечанак пра самыя няўдалыя спатканні ў жыцці.

## Няхай ваша каханне складваецца ўдала!



старонка 20

У Гальшанах у 2009 годзе. Фота Юрыя ГОРЫДА. (8-029) 661-10-60 (Вайбер), @goridphoto (Інстаграм)

ISSN 1991–7155




Адсканульце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Лепшы ляснічы Беларусі жыве ў Астраўцы

**АСТРАВЕЦ**


Фота забяспечана Анастасіяй ДАКУЧАЕВАЙ.

Лепшым ляснічым Беларусі па выніках працы за 2019 год стаў **Аляксандр Гайса**. Ён працуе ў Астравецкім лясніцтве.

Сваю працоўную дзейнасць у сістэме Мінлясгаса Аляксандр Міхайлавіч пачаў у 1991 годзе. Тады ён прыйшоў у Астравецкі лягас інжынерам па ахове і абароне лесу. Пазней пайшоў працаваць ляснічым у Астравецкае лясніцтва. Там працуе 24 гады.

На працы пра яго кажуць як пра добразычлівага і адказнага. Мужчына захапляецца паляваннем і рыбалкай, уваходзіць у склад зборнай каманды лягаса па розных відах спорту, расказала карэспандэнту прэс-сакратар Міністэрства лясной гаспадаркі **Анастасія Дакучаева**.

Урачыстая цырымонія ўзнагароджання лепшага ляснічага краіны адбудзецца ў Мінску падчас правядзення выніковага пасяджэння калегіі Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Віталя Круповіча прызначылі галоўным доктарам Смаргонскай ЦРБ

**СМАРГОНЬ**

Віталь Круповіч 25-ы год працуе ў Смаргонскай ЦРБ, а на працягу апошніх дзевяці месяцаў выконваў абавязкі галоўнага доктара.

Па спецыяльнасці Віталь Круповіч – доктар-неўролаг. Ад 1996 года працаваў у паліклініцы, затым у неўралагічным аддзяленні бальніцы. У 2000 годзе стаў намеснікам галоўнага доктара па медыцынскай частцы.

Рэалізацыю сваіх планаў галоўны доктар ужо пачаў: завяршаецца рамонт прыёмнага аддзялення, на чарзе – першы паверх таго ж будынка. Там знаходзяцца хол для наведнікаў, кабінеты УЗІ і фізіятэрапіі, лабараторыя. Рамонту чакаюць аддзяленне кардыялогіі, некаторыя сельскія амбулаторыі і ФАПы.

Працягнецца закупка новага абсталявання. На сродкі абласнога бюджэту набудуць высокатэхналагічнае абсталяванне для правядзення аперацый на касцях і суставах у аддзяленне траўматалогіі, а таксама набор інструментаў для гэтага аддзялення. Плануецца стварэнне перасоўнага фельчарска-акушэрскага пункта на базе аўтамабіля МАЗ. Яго можна абсталяваць УЗІ-апаратам і іншымі опцыямі, каб аказваць дапамогу пацыентам з аддаленых вёсак.

**Паводле shliah.by.**

## Беларусь просіць перагледзець умовы па крэдыце на АЭС

**АСТРАВЕЦ**

Беларусь просіць Расію перагледзець умовы міжурадавага крэдыту на будаўніцтва АЭС у Астраўцы (БелАЭС), але бягучыя прапановы Мінска не могуць быць прынятыя, паведаміў журналістам намеснік міністра фінансаў Расіі **Сяргей Сторчак**.

«Беларускія калегі настойліва просяць нас перагледзець умовы дзеючага пагаднення. Кансультацыі такія ідуць у працоўным парадку, нічога асаблівага не адбываецца», – сказаў Сторчак.

«Адначасова падоўжыць перыяд выкарыстання сродкаў крэдыту і паменшыць працэнтную стаўку – не адпавядае фінансавай тэорыі, таму трэба шукаць кампрамісы ў іншай плоскасці», – падкрэсліў намеснік міністра фінансаў Расіі.

9 лютага першы віцэ-прэм'ер беларускага ўрада **Дзмітрый Крутой** паведаміў, што Мінск просіць адкласці час пачатку выплат па крэдыце. «Плюс мы просім, каб не несці дадатковыя нагрузкі, рассунуць тэрмін гэтага крэдыту і некалькі знізіць працэнтную стаўку, прывёўшы яе ў адпаведнасць прыкладна з тымі кантрактамі, якія існуюць у «Расатама» ў іншых краінах», – сказаў Круты.

Першы блок БелАЭС павінны быць уведзены ў 2020 годзе (усяго павінна быць два энергаблокі). «Па першым блоку мы зараз падыходзім да вельмі важнай стадыі пусканаладачных работ», – сказаў 9 лютага Круты. Па ўмове крэдытнага пагаднення з Расіяй Беларусь павінна пачаць пагашаць крэдыт не пазней за 1 красавіка 2021 года. На 1 студзеня 2019 года Беларусь выкарыстала 3,4 мільярда долараў з крэдытнай лініі ад Расіі на 10 мільярдаў долараў, паведамлялася ў ліпені мінулага года ў праспекце беларускіх аблігацый.

**Паводле rbc.ru.**


Фота vk.com/brigforever.

Цэнтр адпачынку «Брыганціна» на Маладзечаншчыне.

# У Радашкавічах размясцілі прафілакторый для кітайскіх студэнтаў

**Прэс-служба Міністэрства аховы здароўя паведамляе, што ў аздараўленчым цэнтры БДУ «Брыганціна» ў Радашкавічах ад 7 лютага размясцілі прафілакторый для студэнтаў, якія прыбываюць у Беларусь з абласцей Кітая, не закрытых на каранцін, і дзе не зарэгістраваныя выпадкі захворвання.**

**МАЛАДЗЕЧНА**

У прэс-службе падкрэсліваюць, што гаворка ідзе пра дадатковыя меры для студэнтаў, якія не былі ў кантакце з хворымі і не наведвалі эпідэмічна-непаспяховых раёны.

7 лютага ў аздараўленчы цэнтр накіраваліся шматлікія спецыялісты. Тут усё падрыхтавалі для таго, каб людзі маглі камфортна правесці два тыдні. Усе медыцынскія супрацоўнікі, якія будуць працаваць у аздараўленчым лагеры, прайшлі дадатковую падрыхтоўку.

У аздараўленчым цэнтры арганізавалі індывідуальную форму навучання ў анлайн-рэжыме. Такія ж меры эпідэмічнай бяспекі ўведзеныя ва ўсіх абласцях краіны, дзе навучаюцца студэнты з КНР.

Па дадзеных Міністэрства адукацыі, цяпер у Беларусі навучаецца каля пяці тысяч студэнтаў з Кітая. На канікулы за межы Беларусі выязджалі 920 чалавек.

У Міністэрстве звяртаюць увагу, што ўсім грамадзянам, якія наведвалі Кітай і іншыя краіны, дзе распаўсюджаны каранавірус, у выпадку з'яўлення сімптомаў варта неадкладна выклікаць «хуткую дапамогу». А сімптомы – гэта павышэнне тэмпературы цела, кашаль, задышка. Падчас выкліку доктара неабходна паведаміць пра сімптомы захворвання і даце прыбыцця з Кітая.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пераможца «Адной зямлі» будзе спяваць на «Маладзечна-2020»

**МАЛАДЗЕЧНА**

**З 18 спевакоў абралі трох. Гэта Данііл Мышкавец, Ганна Зайцава і Дыяна Бажко.**

Данііл і Ганна – мінчане. А Дыяна – маладзечанка. У 2019 годзе яна ўзяла Гран-пры фестывалю «Адна зямля», што летась праходзіў у Маладзечне.

Адборачны тур да Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ладзілі 11 лютага ў Маладзечанскім Палацы культуры. Кожны з артыстаў выканаў дзве кампазіцыі.

Ацэньвалі выступоўцаў прадстаўнік Мінаблвыканкама **Яўген Асташоў**, музыкант **Дзмітры Сушко**, кампазітар і педагог **Алена Атрашкевіч**.

Нагадаем, што чатыры гады таму Дыяна Бажко скончыла з залатым медалём маладзечанскую гімназію-каледж мастацтваў. У інтэрв'ю «Рэгіянальнай газеце» дзяўчына прызналася, што магла б пайсці ў любую навучальную ўстанову. Але сэрца абрала менавіта музыку. Бацькі Дыяны, таксама музыканты, падтрымалі дачку.

Вакалам Дыяна пачала займацца ад шасці гадоў. Яе першым педагогам была спявачка **Алеся Кульша**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Дыяна Бажко пасля фестывалю «Адна зямля».


Фота inter-press.by.

Некаторыя хацелі б праверыць, ці правільна ім налічылі заробак па новай сістэме.

# Як бюджэтнікам даведацца, ці правільна налічылі заробак

**У лютым работнікі бюджэтнай сферы пачалі атрымліваць разліковыя лісты за студзень. Гэта першы месяц, дзе заробак разлічылі па новых правілах.**

Пасля гэтага пачаліся абмеркаванні, што разлічаная па-новаму зарплата ніжэй за снежаньскую, разлічаную па ранейшых схемах. Напрыклад, у работнікаў некалькіх школ Гродна раптоўна ўпаў заробак.

Міністэрства працы і сацабароны запэўнівае, што трымае на кантролі сітуацыю па налічэнні заробку бюджэтнікам. У гэтых гродзенскіх школах бухгалтэрыя няправільна налічыла зарплату. Не ўлічылі адну са стымулюючых выплат. Гэта і прывяло да памяншэння налічанай зарплаты.

Калі ў работнікаў бюджэтных арганізацый пры параўнанні зарплат за снежань і студзень ёсць пытанні, спачатку звярніцеся ў бухгалтэрыю. Калі не вырашыце пытанні, звярнiцеся ў Міністэрства працы і сацабароны. Пры гэтым не абавязкова называць прозвішча, дастаткова ўказаць арганізацыю.

Інфармаваць міністэрства можна праз тэлефон інфалініі (8-017) 309-9-309, электронную пошту mlsp@mintrud.gov.by або сацыяльныя сеткі міністэрства.

**Што змянілася**

Новая сістэма налічэння заработнай платы бюджэтнікам замяняе тарыфную стаўку першага разраду базавай стаўкай. Тарыфных разрадаў стала менш – замест 27 стала 18. Скарацілі колькасць даплат і надбавак.

Новаўвядзенні павінны зрабіць разлік заробку больш простым і лагічным. Але разам з тым абяцалі, што агульная сума не ўпадзе.

**Паводле паведамлення Міністэрства працы і сацзабеспячэння.**

## Кіраўнік Белтэхагляду: Палова беларускіх аўтамабіляў не прайшла тэхагляд

**У 2014 годзе ўвялі дзяржаўную пошліну за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху.**



Фота Ігара ПАЛЬЧЫКАГА.

Збор дзяржпошліны ўсклалі на Белтэхагляд. З гэтага моманту была сур'ёзна падарваная праца сістэмы дзяржтэхагляду. Аб гэтым распавёў кіраўнік Белтэхагляду **Юры Лянчэўскі**.

На працягу гэтых гадоў назіраецца штогадовае зніжэнне колькасці аўто, якія праходзяць тэхагляд.

– Асабліва апошнія два гады – па 10% штогод. Гэта наўпрост звязана з тым, што першадычна робіцца гучныя заявы, што пошліну адвяжуць ад праходжання дзяржтэхагляду, – падкрэсліў Лянчэўскі.

– Мы адсочвалі – кожны раз, калі гучала, што гэта пытанне ў бліжэйшы час будзе вырашанае, адбываліся сур'ёзныя спады. Іх суправаджаў вал званкоў ад грамадзян – адвязалі ўжо ці не адвязалі?

Напрыклад, у студзені 2020 года падзенне склала 40% у параўнанні з пачаткам мінулага года, распавёў дырэктар прадпрыемства.

Па ацэнцы дырэктара Белтэхагляду, сярод аўтамабіляў, якія ездзяць па дарогах Беларусі, не прайшлі своечасова тэхагляд прыкладна да 50%.

**Паводле Interfax.by.**

## Футбольны стадыён у Маладзечне плануюць мадэрнізаваць

У кожным раённым цэнтры Мінскай вобласці плануюць пабудаваць сучасныя спорткомплексы.

Як адзначыў **Яўген Булойчык**, начальнік галоўнага ўпраўлення спорту і турызму Мінаблвыканкама, цяпер на тэрыторыі вобласці дзейнічае каля 2850 спартыўных аб'ектаў, уключаючы спартыўныя школы і цэнтры алімпійскага рэзерву. І гэты кірунак працягвае развівацца. Акрамя таго, матэрыяльна-тэхнічная база на сённяшні дзень ужо дазваляе праводзіць у рэгіёнах спаборніцтвы сур'ёзнага ўзроўню.

Сёлета чакае мадэрнізацыя і футбольны стадыён у Маладзечне.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.02 руб. | 13.02 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2.1540 | **2.1919** |
| Еўра | 2.3769 | **2.3923** |
| Злоты, 10 | 5.5732 | **5.6199** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4173 | **3.4800** |
| Грыўня, 100 | 8.6969 | **8.9330** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **5.02** | **12.02** |
| Еўра | 2.3200/2.4000 | **2.3350/2.4200** |
| Долар ЗША | 2.1200/2.1800 | **2.1500/2.2250** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 5.02 | 12.02 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,18 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,10 | **5,10** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,80 | **9,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,40 | **1,40** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,90 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | **2,30** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,75 | **1,75** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,20 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 6,30 | **5,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,80** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **4,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,40** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 10,00 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,30** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,30 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 3,00 | **3,90** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У гаспадыні ў Красным загарэлася пральная машына

**МАЛАДЗЕЧНА**

Два пажары здарыліся ў нядзелю, 9 лютага, на Маладзечаншчыне.

Першы выклік на «101» паступіў каля сямі раніцы. Пра пажар у Маладзечне на Велікасельскай паведамілі прахожыя. Па прыбыцці першых падраздзяленняў уставілі, што гарыць нежылы дом.

У 2018 годзе жыхароў рассялілі, а дом збіраліся знесці. Пацярпелых няма. Прычыну высвятляюць.

Наступнае паведамленне пра пажар паступіла каля 9:30 з Краснага. Гаспадыня дома ўключыла пральную машыну на кухні. Праз некаторы час пачула гучны стук. Прыбегшы на кухню, убачыла, што пральная машына гарыць, расказала інспектар прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**.

Пасля няўдалай спробы затушыць агонь жанчына пабегла да суседзяў. Тыя выклікалі выратавальнікаў і дапамаглі патушыць загаранне. У выніку пажару агонь пашкодзіў пральную машыну, столь з сайдынгу па ўсёй плошчы кухні, закурыў сцены. Пацярпелых няма.

Прычына пажару ўстанаўліваецца. Мяркуюць, узгаранне магло адбыцца з-за канструктыўнага недахопу пральнай машыны.

**МНС папярэджвае:** прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. Не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі. Беражыце сябе і сваіх блізкіх! У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары **101** або **112**, не забываючы ўказваць адрас і месца пажару.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Запрасіў знаёмую дамоў, а яна скрала пілу

**МАЛАДЗЕЧНА**
**ВАЛОЖЫН**

На лінію «102» у Маладзечанскі РАУС звярнуўся 30-гадовы жыхар вёскі Бортнікі Маладзечанскага раёна. Мужчына паведаміў, што з яго дома скралі бензапілу коштам 250 рублёў.

Праваахоўнікі высветлілі, што незадоўга да знікнення заяўнік распіваў спіртное са сваёй знаёмай, 64-гадовай жыхаркай вёскі Агароднікі Валожынскага раёна. Вёскі суседнічаюць адна з адной, паміж імі адлегласць літаральна ў тры кіламетры.

Выпадкова сустрэўшыся на вуліцы, знаёмыя вырашылі працягнуць гутарку за выпіўкай. Мужчына аддаў знаёмай ключы ад свайго дома, а сам пайшоў у краму.

Літаральна пасля першай чаркі гаспадар не знайшоў на звыклым месцы бензапілы, хоць дакладна памятаў, што нядаўна яе бачыў. Падазрэнні ўпалі на нечаканую госцю, але яна сваю датычнасць да знікнення інструмента ўсяляк адмаўляла.

Міліцыянеры ўстанавілі, што дама ўсё ж датычная да крадзяжу бензапілы, па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства яе затрымалі аператыўнікі па месцы жыхарства. У ходзе гутаркі жанчына прызналася, што, пакуль чакала прыяцеля, ёй спадабаўся інструмент.

Спярша яна вынесла пілу на вуліцу і схавала ў кустах недалёка ад дома свайго знаёмага, а пасля застолля перахавала выкрадзенае ўжо побач са сваім домам.

Прычыну свайго ўчынку жанчына патлумачыла тым, што забрала інструмент нібыта ў рахунак доўгу, які знаёмы ёй не вяртаў, такім чынам яна вырашыла кампенсаваць шкоду. Аднак гаспадар бензапілы пра доўг не памятае.

Бензапілу канфіскавалі. У дзеяннях грамадзянкі ўгледжваюцца прыкметы складу злачынства, прадугледжанага ч. 1 арт. 205 КК Рэспублікі Беларусь «Крадзеж». Раней дама да крымінальнай адказнасці не прыцягвалася.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Хлопец, які пабіў вітрыну ў краме цацак, сам прыйшоў у міліцыю

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра гэта 6 лютага нам паведаміла афіцыйны прадстаўнік РАУС Маладзечна **Юлія Крук**.

Пра маладога чалавека, які пабіў шкло ў цацачнай краме гандлёвага цэнтра, мы пісалі ў мінулым нумары. **Юлія Крук** паведаміла, што 5 лютага маладзечанец сам прыйшоў у міліцыю. Пра тое, што яго шукаюць, маладому чалавеку паведамілі сябры.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



АЭС пакуль не запусцілі.

Фота Настассі УЛКІНАЙ.

# Намеснік міністра энергетыкі пацвердзіў пажар на АЭС

**АСТРАВЕЦ**

**Журналісты запыталіся ў намесніка міністра энергетыкі Міхаіла Міхадзюка пра інцыдэнт на Астравецкай АЭС, пра які паведаміў Дэпартамент дзяржбяспекі Літвы.**

Міхадзюк распавёў, што выпадак насамрэч меў месца.

– Гэта было ўзгаранне ў металічным вядры астатку фарбы, прыгатаванай на растваральніку. Адбылося гэта ў маі 2019 года па віне аднаго з рабочых, які ў парушэнне правілаў тэхнікі бяспекі закурыў ва неўсталяваным месцы побач з вядром з фарбай, што прывяло да ўзгарання фарбы і задымлення памяшкання. Узгаранне аператыўна ліквідавалі вогнетушыцелем. Сістэма пажарнай сігналізацыі спрацавала штатна. Пашкоджанняў абсталявання, будаўнічых канструкцый не было.

Па словах намесніка міністра, гэты выпадак зарэгістравалі і расследавалі ва ўстаноўленым парадку. Парушальніка і адказную асобу – майстра – звольнілі.

– Калі б узгаранне прывяло да пашкоджанняў абсталявання або будаўнічых канструкцый, якія ўплываюць на бяспеку АЭС, грамадскасць была б праінфармаваная. Канешне, неабходна прымаць усе меры, каб выключаць падобныя выпадкі, – сказаў Міхаіл Міхадзюк.

**Паводле sb.by.**

## Скралі пральную машыну, разабралі і прадалі

**МАЛАДЗЕЧНА**

У міліцыю Маладзечна звярнулася 53-гадовая жыхарка сталіцы. Жанчына распавяла, што з двара яе лецішча ў Алёхнавічах невядомыя скралі пральную машыну Indesit.

На месца выбыла следча-аператыўная група. Мінчанка патлумачыла, што ненадоўга адышлася з дому па справах. Калі вярнулася, на падворку не знайшла пральнай машыны, расказала афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**.

Падчас праверкі супрацоўнікі крымінальнага вышуку выйшлі на след падазроных. Гэта трое беспрацоўных мужчын: 30-гадовы мясцовы жыхар і двое прыяцеляў з бліжэйшых вёсак ва ўзросце 47 і 52 гадоў. Іх затрымалі і даставілі ў РАУС.

Праваахоўнікам мужчыны прызналіся, што пранiклі на падворак па вуліцы Зарэчнай, адкуль панеслі пральную машыну. Здабыча пайшла на спіртное.

Машыну мужчыны разабралі і прадалі ў Алёхнавічах за сімвалічную плату. Скрадзенае канфіскавалі. Усе фігуранты раней судзімыя за аналагічныя злачынствы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выносіў з дамоў антыкварныя гадзіннікі і метал

**АШМЯНЫ**
**МАЛАДЗЕЧНА**

Сышчыкі Ашмянскага РАУС высветлілі асобу падазраванага ў крадзяжы з нежылых дамоў раёна. Ім аказаўся 24-гадовы мясцовы жыхар, які датычны як мінімум да двух злачынных эпізодаў у кастрычніку мінулага года.

Спачатку ў міліцыю звярнуўся госць з Маладзечна. Ён прыехаў у Ашмяны пагледзець дом, які перайшоў яму ў спадчыну. Заўважыў, што ў адным з вокнаў няма шыбы і звярнуўся ў міліцыю. Высветлілі, што злодзей вынес з дома металічныя прадметы і антыкварны камінны гадзіннік.

Праз некалькі дзён у праваахоўныя органы паступіла паведамленне аб падобным крадзяжы ў вёсцы Вялікія Шумілішкі. Як і ў першым выпадку, пацярпеў спадчыннік жылля. Праўда, цяпер замест акна падазраваны пашкодзіў уваходныя дзверы. З дома зніклі настольныя і насценныя гадзіннікі, металічныя прадметы, патэфон і чамадан.

Вылічыць зламысніка ўдалося праз некалькі месяцаў. За гэты час малады чалавек паспеў прадаць частку выкрадзенага, нешта здаў на металалом. Сабе пакінуў толькі гадзіннікі. Іх і знайшлі праваахоўнікі ў гаражы фігуранта.

Следчыя далі дзеянням мужчыны прававую ацэнку, распачалі крымінальныя справы па фактах крадзяжу. Сышчыкі ўстанаўліваць, ці мог быць датычны падазраваны да аналагічных злачынстваў. Вядома, што жыхар райцэнтра ўжо судзімы за падобныя злачынствы і ўцягванне ў іх непаўналетняга.

**Паводле прэс-службы МУС.**

## Начальнік Мінаблупраўлення МНС правядзе асабісты прыём

**МАЛАДЗЕЧНА**

19 лютага ад 9:00 да 13:00 у Маладзечанскім ГРАНС будзе весці асабісты прыём начальнік аддзела службы і боегатоўнасці падраздзяленняў намеснік начальніка Мінскага абласнога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь **Віталь Пякурын**.

Ён прыме грамадзян і прадстаўнікоў юрыдычных асоб, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна. Адрас: **вуліца Віленская, д.7, каб. №7.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Газ ці дровы: што танней, зручней і надзейней

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Некалькі дзён таму стала вядома, што Расія будзе пастаўляць Беларусі газ па старой цане – 127 долараў за тысячу кубаметраў. Хаця пэўны час меркавалася, што цэны на газ вырастуць.**



А вось так пагрэцца можна толькі каля печкі.

Чым лепш, танней і зручней ацяпляць дом і ці трэба будзе ў бліжэйшыя гады жыхарам прыватных дамоў у рэгіёне ўспамінаць пра печку?

### Ацяпленне газам – суцэльныя плюсы

Сям'я **Сапачоў** жыве ў прыватным доме на Маладзечаншчыне. Газам ацяпляюцца каля дзесяці гадоў. Каб пайшло цяпло, трэба толькі націснуць на кнопку. Тэмпературу можна рэгуляваць самім.

– Раней, да газу, мы выкарыстоўвалі дровы і торф. На маю думку, у параўнанні з імі газ мае адны толькі перавагі. Не трэба нарыхтоўваць паліва, паліць два разы на дзень, выносіць попел. У доме ўвесь дзень пастаянная тэмпература. Заўсёды цёплая вада, ле таксама грэюць газам. Можна дом пакінуць на некалькі дзён, не баючыся, што размерзнецца сістэма, – пералічвае плюсы газавага ацяплення мая суразмоўца Ларыса і жартуе: – І яшчэ мужык не патрэбны ў доме.

Мінус хіба ў тым, што газавае абсталяванне каштуе дорага. І з афармленнем дакументацыі было шмат цяганіны. Праект газаправода вяскоўцы рабілі за ўласны кошт. Дзяржава адразу аплаціла 30 працэнтаў, астатнія 70 пачала вяртаць праз год.

Плошча дома, дзе жыве сям'я Сапачоў, – крыху большая за 90 квадратных метраў. Каб у доме было цёпла зімой, гаспадары плацяць 40-50 рублёў у месяц. Больш канкрэтная сума залежыць ад надвор'я, ад таго, наколькі халодная зіма. Суразмоўца адзначае, што іх дом стаіць у такім месцы, дзе пастаянныя вятры, таму паліць трэба больш. Калі б забудова была больш шчыльная, было б менш выдаткаў. Але затое ў доме ніколі не бывае горача.

Па назіраннях спадарыні Ларысы, усе знаёмыя вяскоўцы задаволеныя газавым ацяпленнем. А хто быў супраць адразу, то падключаліся пасля. А пра газавыя супярэчнасці з Расіяй няма часу задумвацца, падсумавала суразмоўца.

Сям'я Дуровічаў – з Вілейшчыны. У іх вёсцы газ не праведзены. Людзі ацяпляюцца дровамі. У нашых герояў дом плошчай каля ста квадратаў. Паляць кацёл, які працуе на дровах. Расход іх залежыць ад надвор'я. Але ў сярэднім – два-тры кубаметры ў месяц.

### Ацяпленне дрывамі – па грашах столькі ж, але нязручнасцяў больш

У лясгасах рэгіёна адзін кубаметр дроў з дастаўкай каштуе ў межах 25 рублёў. Выходзяць прыкладна тыя ж самыя 50 рублёў на месяц, якія плацяць сям'я, што ацяпляецца газам. Але, на думку гаспадароў, да іх матэрыяльных затрат варта дадаць яшчэ і фізічныя:

– Замоўленыя дровы трэба скласці, некаторыя перад гэтым пасекчы. Пасля штодзень іх трэба прыносіць да катла. Калі зіма снежная, падвозім на старых дзіцячых санках. Калі ж – як цяпер, то носім ахапкамі. Стараемся ўсё рабіць акуратна, але як толькі ацяпляльны сезон – кара і пілавінне не толькі ў кацельні, а па ўсім доме. Раз на некалькі дзён трэба чысціць кацёл і выносіць попел, – расказвае пра ацяпленне дрывамі гаспадыня **Ірына**.

Калі б была магчымасць падключыць газ у нашай вёсцы, зрабілі б гэта за любыя грошы, кажа Ірына.

### Эксперт: Пра печку пакуль думаць не варта

Дамова пра 127 долараў за тысячу кубаметраў газу – часовая, а як там складзецца далей, пакуль сказаць цяжка. І ўсё ж пра печкі жыхарам прыватнага сектара ўспамінаць пакуль не варта, лічыць эксперт у нафтавай і газавай галінах **Таццяна Манёнак**.

– Улічваючы апошнія тэндэнцыі на газавым рынку, Беларусь мяркуе знізіць кошт на расійскі газ са 127 долараў за тысячу кубаметраў да 70-75. Па такой цане газ купляе Смаленск. І ўвогуле кошт газу знізіжаецца ва ўсім свеце, – раскзала Таццяна.

На яе думку, Расіі не выгадна завышаць цэны для Беларусі – другога спажыўца расійскага газу пасля Германіі. Да таго ж праз Беларусь праходзяць дзве трубы «Газпрама». Таму ў газавым пытанні Расія таксама крыху залежыць ад Беларусі. Расія разумее гэту залежнасць. І калі цэны істотна павысяцца, Лукашэнка абяцаў, што будзе шукаць альтэрнатыўных пастаўшчыкоў газу.

**А вось на прапанову Беларусі плаціць за газ не доларамі, а расійскімі рублямі Расія пакуль не пагаджаецца.**

– Такім чынам, добра, што цэны на газ пакуль хаця б не павышаюцца. Але кепска тое, што ў пытаннях з расійскім газам і нафтай па-ранейшаму нявызначанасць, – падсумавала Таццяна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

## У ільянскай школе сустрэліся з калектывам «Імпэт»

ВІЛЕЙКА

**10 лютага клуб «Цікавыя сустрэчы», што дзейнічае на базе музеяў «Вілейшчына літаратурная» і «Ільянскія далягляды» ў Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаця сустракаў народны аматарскі калектыў аўтарскай песні «Імпэт» пад кіраўніцтвам Галіны Кутас.**

Сустрэча адметная тым, што сёлета калектыву спаўняецца 20 год. У красавіку 2003 года «Імпэт» атрымаў найменне «народны». І кожныя тры гады калектыў яго паспяхова пацвярджае.

**Асновай творчасці сталі вершы-песні Галіны Кутас. Аўтарамі слоў многіх песень з'яўляюцца Мікола і Генрых Кутасы. У рэпертуары калектыву 70 песень, з іх дзесяць беларускамоўных – для дзяцей.**

Галіна Кутас – нязменны кіраўнік «Імпэту» – таленавітая, творчая, няўрымслівая. Нарадзілася яна на Валожыншчыне. Скончыла Гарадоцкую сярэднюю школу Маладзечанскага раёна з сярэбраным медалём, Мінскі педагагічны інстытут – з чырвоным дыпломам. Працавала настаўніцай у школах Вілейскага раёна, загадчыкам прафсаюзнага клуба Ільянскага саўгаса-тэхнікума, старшынёй Ільянскага сельскага Савета. Сёлета Галіна Віктараўна святкуе два юбілеі: 20-годдзе аматарскага калектыву «Імпэт» і сваё 70-годдзе.

– Самая лепшая аўдыторыя – гэта школьная, – пачала сваю размову са слухачамі былая настаўніца. – Мы вельмі рады сустрэчы з вамі, і таму выступленне пройдзе пад назвай «Радасць новых сустрэч». Сёння будзем спяваць пра каханне, якое бывае гарачым, шчаслівым, а нярэдка прыносіць боль і смутак.

Песню «Снег растане» на словы і музыку Галіны Кутас выканала салістка калектыву **Марына Шарая** – музыкант, загадчык філіяла Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў. Яна падзялілася ўспамінамі пра сваіх былых вучняў, расказала пра іх шматлікія высокія дасягненні.

**З радасцю віталі вучні былую настаўніцу замежнай мовы Святлану Міхалькевіч. У яе выкананні прагучалі песні на словы і музыку Галіны Кутас «Ноч» і «Не пытайся».**

**Антаніна Галубовіч** выканала песню на словы Генрыха Кутаса і музыку Галіны Кутас «Хто дарye за ўсё». Антаніна – выпускніца ільянскай школы. Яна закончыла Маладзечанскі музычны каледж імя Агінскага, потым Мінскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Танка па спецыяльнасці музыка і рытміка, працуе мастацкім кіраўніком Чысцінскага ДК.

Госці не толькі спявалі песні, а таксама дзяліліся ўспамінамі, гаварылі пра жыццё. Са словамі наказу і пажаданнямі звярнуліся да вучняў удзельнікі калектыву **Галіна Кажура** і **Юры Амілаўскі**.

Сваю канцэртную праграму народны калектыў «Імпэт» завяршыў песняй на словы Яўгеніі Янішчыц і музыку Галіны Кутас «Пачынаецца ўсё з любові».

Выступленне артыстаў дазволіла вучням яшчэ раз адчуць прыгажосць роднага беларускага слова.

Шчыра віншуем народны аматарскі калектыў аўтарскай песні «Імпэт» і асабіста Галіну Віктараўну з юбілеем і жадаем здароўя і творчага даўгалецця.

**Аксана ШУШКЕВІЧ,**
**кіраўнік школьнага народнага музея «Вілейшчына літаратурная»**
**Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Hyundai Accent 2014 г., прабег 57 тыс., падагрэў сядзенняў, люстэрак, задняга шкла, камп'ютар, кандыцыянер. Т. МТС 2611461, Вэлком 9187744.

• УАЗ-452 бартавы, можна на запчасткі, з дакументамі. Т. (8-033) 6317326.*

• ФВ-Пола, 2011 г.в., рухавік 1,4. Т. (8-044) 4720414.*

• Фіят-Уліс, 1995 г.в., газ-бензін, в працоўным стане. Т. (8-029) 6080111.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Старыя савецкія матацыклы і запчасткі. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвы драўляны дом у а.г. Залессе Смаргонскага раёна. 25 сотак зямлі. Плошча дома – 37 кв. м. На тэрыторыі знаходзяцца гаспадарчыя пабудовы, сад, агарод. Магчымы падвод газу. Побач вакзал і аўтобусны прыпынак. Т. (8-029) 1056204.

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Ашмянах у цэнтры горада. Нядорага. Т. (8-029) 3794607.*

• 2-пакаёвая кватэра ў п. Чысць Маладзечанскага раёна па вул. Цэнтральнай, 2 з гаражом, хлеўчыкам і агародам, 1 паверх 2-павярховага цаглянага дома 1991 года, 52/29/7,6, санвузел раздзельны, шклопакеты, металічныя дзверы, зашклёная лоджыя, тэлефон. Пад вокнамі абгароджаны сеткай агарод (вішні, слівы, яблыні, парэчкі, маліна). Побач з домам – газасілікатны гараж 5х6, 2 цагляныя хлеўчыкі. Цана 57000 рублёў Т. (8-029) 6690450.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, Незалежнасці. Мэбля. Гараж. Т. (8-029) 585482.*

• Дом у в. Карвелі, 2 км ад Вілейкі, нядорага. Т. 98-029) 5027565.

• Дом у в. Цынцавічы, 91 Вілейскага раёна. Т. (8-029) 2524943.

• Дом у Маладзечне па вул. Велікасельскай. Т. (8-033) 6393440.*

• Участак 12 сотак у Вілейцы, вул. Стаўкі, 9. Т. (8-044) 7133606,(8-029) 1825368.*

• Участак. Вілейка, вул. Стаўкі, 9. Т. (8-029) 1825368, (8-044) 7133606.*

### МЯНЯЮ

• 1-пакаёвую кватэру ў к.п. Нарач на Маладзечна. Т.(8-044) 4901101.*

### ЗДАМ

• Кватэру на суткі. Т. (8-029) 6216628.*

• Кватэру ў 6-м мікраараёне Маладзечна. Т. МТС (8-029) 2103019.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў. ІП Высоцкі А.С. УНП 692245001 Т. (8-029) 7357499.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЗВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Т-16 з дакументамі. Т. (8-029) 2449142.

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік б/у, маразільнік б/у, аэрагрыль б/у, прафесійны міксер для малочных кактэйляў на 1 шклянку б/у. Т. (8-033) 6379544.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка Т. МТС (8-033) 6908397, А 1 (8-029) 6938397.*

**Іншае**

• Дровы калодкамі, колатыя. Сасна сухая, магчыма, асіна, бяроза, вольха. Т. (8-029) 8740790, (8-029) 9789490.*

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

• Стужачна-пільны станок вытворчасці Латвія; заточны-разводны станок. Пагрузчык вытворчасці Львоў. Т. (8-029) 7091266.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*


Фота Настассі УТКІНАЙ.

**Маладзечна плануюць зрабіць адным з 11 цэнтраў Беларусі з паскораным развіццём.**

# Маладзечна – горад-драйвер. Што пра гэта думаюць чытачы

**У нашай суполцы ў «Аднакласніках» падпісчыкі абмеркавалі навіну пра тое, што Маладзечна стане горадам-драйверам рэгіянальнага росту.**

Плануюць, што такіх цэнтраў з паскораным развіццём будзе 11, удакладняе БелТА. У гэтых раёнах плануюць выйсці на сярэдні заробак па краіне, вытрымліваць стандарты па адукацыі і ахове здароўя. Горад павінны развівацца без датацый і мець высокі ўзровень жыцця, будзе развівацца і мясцовае кіраванне.

Інфармацыю пра гэта мы публікавалі ў папярэднім нумары «РГ».

Вось як успрынялі навіну нашы падпісчыкі.

«Рабочыя месцы дайце і зарплату. Паадкрывалі магазінчыкаў паношанага барахла!». **Сяргей.**

**«Ой, бабанькі, раджаю! Ды ў Маладзечне працуе адзін хлебазавод і пыхціць паціху мэблевая фабрыка – усё!». Сяргей.**

«А чым вам сэканды недаспадобы? У мяне знаёмая далёка нябедны чалавек, любіць закупляцца там. Праўда, у еўрапейскіх.

**Якасць высокая, не заўсёды і ношанае, лепш, чым на рынку і ў гандлёвых цэнтрах, дзе ўсё пад кальку.**

Вось я маю магчымасць атрымліваць гуманітарку, то я лепш дзецям там Levi's вазьму. Яны ногі не зафарбуюць, а пасля яшчэ аддам каму-небудзь, таму што фірмы з рэпутацыяй незабіваемыя». **Галіна**.

**«Мне прасцей з Расіі прывезці Ікеа, чым купляць у Маладзечне мэблю. Раскажыце мне, хоць адна мэблевая фабрыка дае гарантыю на кухню ў 25 год?». Галіна.**

«Медыкі, можа, хто разліковыя лісты атрымаў. Як там зарплата? Менш ці як і была?». **Людміла.**

# Як падатковая кантралюе перавозкі таксі

**Правілы аўтамабільных перавозак пасажыраў рэгулюе пастанова Савета Міністраў ад 30 чэрвеня 2008 года №972 «Аб некаторых пытаннях аўтамабільных перавозак пасажыраў».**

Пасля заканчэння перавозкі для пацвярджэння аплаты ад пасажыра за праезд кіроўца таксі абавязаны выдаць пасажыру плацежны дакумент і разлічыцца з ім. Выключэнне – таксі, заказанае з выкарыстаннем электроннай інфармацыйнай сістэмы з функцыяй аплаты ў безнаяўным парадку.

**Чэк гарантуе пасажыру права на кампенсацыю шкоды жыццю, здароўю або маёмасці ў парадку, які ўстаноўлены заканадаўствам.**

Калі патрабуеце выдаць плацежны дакумент, што пацвярджае факт разліку за паслугі, вы робіце ўнёсак у тое, каб выручку не хавалі. Каб суб'екты прадпрымальніцкай дзейнасці сплачвалі патрэбныя плацяжы ў поўным аб'ёме.

Заклікаем пасажыраў патрабаваць ад перавозчыкаў касавыя чэкі пасля кожнай паездкі. Калі перавозчык не выдаў чэк, калі ласка, паведаміце пра гэта ў падатковую інспекцыю. Напішыце пісьмовую заяву на электронную пошту imns614@nalog.gov.by. У заяве павінны быць наступныя звесткі:

– нумар тэлефона, па якім выклікалі таксі,

– назва перавозчыка,

– маршрут, час выкліку, сума аплаты,

– іншыя абставіны, што пацвярджаюць паездку.

**Або патэлефануйце на нумар (8-0176) 77-11-21.**

Інфармацыя пра падатковы кантроль у сферы перавозак пасажыраў аўтамабілямі-таксі размешчаная на сайце rh.by.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# «Бачыла і падзячнае пісьмо ад прэзідэнта Масціцкага, і каштоўную люстру»

## Маладзечанка расказала падрабязнасці пра жыццё мастака Міхаіла Жабінскага

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ

**У №5 «Рэгіянальнай газеты» мы пісалі пра Міхаіла Жабінскага – мастака, ураджэнца Смаргоні і жыхара Маладзечна.**

Днямі ў рэдакцыю патэлефанавала маладзечанка **Ніна Ягораўна**. Жанчына падзякавала нам за памяць пра гэтага яркага чалавека і паведаміла, што ў 1990 гады яна працавала ў Міхаіла як сацыяльны работнік.

– У верасні 1990 года я прыходзіла ў кватэру да Міхаіла. Бачыла тое падзячнае пісьмо ад прэзідэнта Польшчы **Ігнація Масціцкага**, пра якое прыгадвалі ў ранейшым артыкуле. Бачыла і яго твор – тройку коней, – прыгадала суразмоўца.

**Тую тройку Міхаіл прапаноўваў у падарунак маленькай дачцэ Ніны Ягораўны. Аднак жанчына палічыла, што забраць твор мастака было б няёмка.**



Сям'я Жабінскіх, Міхаіл – другі справа.

### Самаробная люстра і вялізны альбом

Па ўспамінах Ніны Ягораўны, Міхаіл Жабінскі жыў у Маладзечне ў шматкватэрным доме недалёка ад былога магазіна «Дзіцячы свет». У яго кватэры было шмат цікавостак. Напрыклад, шыкоўная люстра, якую мастак зрабіў сам. На люстры былі паўкаштоўныя камяні і шмат прыгожых пацерак.

Дзевяцігадовая дачка Ніны Ягораўны, што разам з ёй хадзіла да Міхаіла, запомніла гэту люстру на ўсё жыццё. Калі ўжо дарослай яна атрымала кватэру, то вельмі хацела сабе такую ж.

Яшчэ з цікавых рэчаў – вялізны альбом, прыкладна метр у вышыню і паўметра – у шырыню. Альбом мастак зрабіў з аркушаў ватмана. Уклейваў туды фотаздымкі і біяграфіі акцёраў з моднага тады часопіса «Савецкі экран».

Паказваў Міхаіл Ніне Ягораўне і ўласны макет Палаца моладзі з паркам, вадаёмамі і масцікамі вакол.

Сваімі рэчамі Міхаіл вельмі даражыў. Дакументы захоўваў у скрыні ў круглым стале. Вельмі хваляваўся, калі раптам не мог знайсці нейкага фотаздымка або паперы.

### Ці быў звязаны Жабінскі з аркай і настаўніцкай семінарыяй

Падзялілася Ніна Ягораўна і здагадкамі пра тое, што Міхаіл Жабінскі як мастак і архітэктар мог мець нейкае дачыненне да стварэння трыумфальнай аркі ў Гелянове.

Нагадаем, што арку ўзвялі ў 1929 годзе. А па словах стрыечнай унучкі Міхаіла, той з'ехаў у Варшаву з Маладзечна толькі ў пачатку 1930-х. А гэта значыць, сапраўды мог мець такое дачыненне.

А яшчэ ёсць меркаванні, што Міхаіл мог выкладаць або вучыцца ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі.



Міхаіл Жабінскі ва ўборы.



Міхаіл Жабінскі – у цэнтры.

### Гарэў творчасцю

Ніна Ягораўна падзялілася, што яе падапечны вельмі добра гатаваў. Пару разоў на тыдзень сацработнік прыносіла з крамаў прадукты, а гаспадар рабіў з іх смачныя мясныя стравы і печыва. Фотаздымкі, на якіх Міхаіл у жаночых строях, Ніна Ягораўна бачыла. А вось саміх убранняў, на жаль, не.

– Чалавек быў вельмі яркі. Ён проста гарэў творчасцю, – падсумавала Ніна Ягораўна свой расповед пра Міхаіла.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# тэлетыдзень

**17-23 лютага**

Передрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Дурань»



Фота esquire.ru.

**У 2014 годзе ў пракат выйшаў драматычны фільм Юрыя Быкава. Атрымаў на розных фестывалях шэраг узнагарод: ад лепшага сцэнарыя да намінацый за лепшыя ролі.**

## Сюжэт

Дзеянне адбываецца ў правінцыйным расійскім горадзе. Маладога слесара-сантэхніка **Дзмітрыя Нікіціна**, які адначасова вучыцца на інжынера-будаўніка, вечарам выклікаюць у інтэрнат, дзе прарвала водаправодную трубу.

Падчас агляду будынка Нікіцін разумее, што будыніна знаходзіцца ў аварыйным стане і можа абрынуцца – яна не вытрымае больш за суткі. У інтэрнаце жыве больш за 800 чалавек, якія нават не падазраюць аб небяспецы.

Нікіцін праз сяброўку сваёй маці, якая працуе бухгалтарам у гарадской адміністрацыі, знаходзіць спосаб паведаміць аб небяспецы мэру горада **Галаганавай**. Яна збірае ў малой зале рэстарана высокапастаўленых чыноўнікаў горада на тэрміновую нараду: падзенне будынка пагражае фінансавай праверкай, у выніку якой могуць даведацца аб буйнамаштабных крадзяжах бюджэту на працягу многіх гадоў. Мэр вырашае зваліць віну за магчымую катастрофу на сваіх падначаленых: начальніка пажарнай аховы **Мацюгіна** і начальніка дэпартамента ЖКГ **Фядотава**.

Гэтых чыноўнікаў вырашаюць забіць, запусціўшы легенду, што яны збеглі з горада. Іх вывозяць за горад паліцэйскія, якія павінны забіць начальнікаў. Перад расстрэлам Фядотаў угаворвае адпусціць маладога сантэхніка.

Нікіцін той жа ноччу з'язджае на машыне з жонкай і сынам, але па дарозе бачыць, што каля інтэрната нікога няма. Ён сварыцца з жонкай, якая не хоча адпускаць яго, таму што баіцца за сям'ю і таму, што людзі ў інтэрнаце ім ніхто. Нікіцін бяжыць у інтэрнат і пачынае будзіць жыхароў з крыкам, што будынак падае. На досвітку яму ўдаецца выгнаць усіх на вуліцу, аднак адзін з мясцовых алкаголікаў настройвае натоўп супраць сантэхніка, і таго жорстка збіваюць. Нікіцін застаецца ляжаць на парозе інтэрната, а жыхары ідуць назад у будынак.

## Цікавыя факты

У СНД было ўсяго 17 копій фільма для кінатэатраў. Касавыя зборы за тры тыдні пракату ў СНД склалі $23115. Фільм стаў папулярны ў СНД толькі ў студзені 2015 года – праз месяц пасля выхаду, калі з'явілася магчымасць паглядзець яго не ў кінатэатры, а ў інтэрнэце. Моцны ўплыў на такую папулярнасць аказала станоўчая рэцэнзія на фільм ад блогера Яўгена Бажэнава. Юры Быкаў пагаджаецца з тым, што агляд Бажэнава дапамог фільму «раскруціцца».

Здымкі фільма праходзілі ў Туле і Маскве. Для здымак разбуранага будынка знайшлі рэальны інтэрнат у Туле. Расколіны на сцяне стварылі мастакі, і з пункту гледжання фізікі немагчымыя ні па абрысах, ні па напрамках заломаў. Дэкарацыя мела памер восем метраў у шырыню і тры ў вышыню, а астатнюю частку дамалявалі камп'ютарам. Унутры памяшканняў на чатырох паверхах расколіны былі сапраўдныя, іх, па згодзе жыхароў, зрабіла здымачная група. А пасля здымак за кошт стваральнікаў карціны зрабілі рамонт.

Сямейныя сцэны ў доме Нікіціна здымаліся ў звычайнай маскоўскай кватэры. Падчас здымак гаспадары кватэры знаходзіліся ў суседнім пакоі. Карціна прысвячаецца памяці савецкага і расійскага кінарэжысёра, сцэнарыста і прадзюсара **Аляксея Балабанава**.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 17 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.40, 18.15, 21.05, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Мой маленький пони».
**7.30** Х/ф **«ФАНТОМАС».**
**9.40, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.30** «BELFASHION.TV». Программа о моде и не только...
**11.00** Х/ф **«МЕТРО».**
**13.15, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.50** Т/с **«РЕКА».**
**15.45** «Юморинка».
**15.50** «Мульт-парад».
**16.00** Х/ф **«ОФИС».**
**16.25** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ФОРМА ВОДЫ».**
**23.15** Х/ф **«В ДОЛИНЕ ЭЛА».**

**ВТОРНИК, 18 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.40, 18.15, 21.05, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Мой маленький пони».
**7.30, 15.45** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«БЕГЛЕЦ».**
**9.45, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.35** Д/ф.
**11.15** Х/ф **«В ДОЛИНЕ ЭЛА».**
**13.20, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.50** Т/с **«РЕКА».**
**15.50** «Мульт-парад».
**16.00** Х/ф **«ОФИС».**
**16.20** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.50** Х/ф **«ГРЕЦКИЙ ОРЕШЕК».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДЕВУШКА В ТУМАНЕ».**
**23.15** Х/ф **«ТРИ ДНЯ КОНДОРА».**

**СРЕДА, 19 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.30, 18.20, 21.15, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Мой маленький пони».
**7.30, 15.35** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ВОИН».**
**9.50, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.35** Д/ф.
**11.00** Х/ф **«ДЕВУШКА В ТУМАНЕ».**
**13.10, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.45** Т/с **«РЕКА».**
**15.40** «Мульт-парад».
**15.50** Х/ф **«ОФИС».**
**16.15** «Законы привлекательности».
**17.00** Х/ф **«ТРИ ТОПОЛЯ НА ПЛЮЩИХЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** «Цена недвижимости».
**21.20** Х/ф **«ДОРОЖНЫЙ ПАТРУЛЬ».**
**23.40** Х/ф **«ОТМЕЛЬ».**

**ЧЕТВЕРГ, 20 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.20, 20.00, 21.05, 0.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Мой маленький пони».
**7.30, 15.25** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ».**
**9.30, 20.05** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.20** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.40** Х/ф **«ДОРОЖНЫЙ ПАТРУЛЬ».**
**13.00, 18.25** Т/с **«ВНУТРИ».**
**14.35** Т/с **«РЕКА».**
**15.30** «Мульт-парад».
**15.40** Х/ф **«ОФИС».**
**16.10** Х/ф **«ЗАГАДОЧНОЕ УБИЙСТВО».**
**17.50** «Готовь как шеф».
**18.10** «Фешн is my профешн».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗАТЕРЯННЫЕ ВО ЛЬДАХ».**
**22.45** Х/ф **«КАПЕРНАУМ».**

**ПЯТНИЦА, 21 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.55, 21.05, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Мой маленький пони».
**7.30** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«АПОЛЛОН 13».**
**10.00, 20.00** Х/ф **«ОРДИНАТОР».**
**10.45** Документальная программа «Волна и мир». «Потепление или ледниковый период».
**12.00** Х/ф **«ЗАТЕРЯННЫЕ ВО ЛЬДАХ».**
**13.40, 18.20** Т/с **«ВНУТРИ».**
**15.10** Т/с **«РЕКА».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.10** Х/ф **«ОФИС».**
**16.40** Х/ф **«ИГРЫ ПАМЯТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ НА АЛЯСКЕ».**
**23.15** Х/ф **«ЛЮДИ ИКС. АПОКАЛИПСИС».**

**СУББОТА, 22 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 14.45, 18.45, 21.15, 1.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Кролик Питер».
**8.35** Х/ф **«ЛУЧШЕЕ ВО МНЕ».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ НА АЛЯСКЕ».**
**12.50** Х/ф **«ПРИНЦ ПЕРСИИ. ПЕСКИ ВРЕМЕНИ».**
**14.50** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Леди и бродяга».
**16.15** Х/ф **«ДЕСЯТЬ ПРИЧИН МОЕЙ НЕНАВИСТИ».**
**18.00** «Законы привлекательности».
**18.50** Х/ф **«МЫ ИЗ БУДУЩЕГО».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«О БЕДНОМ ГУСАРЕ ЗАМОЛВИТЕ СЛОВО».**
**0.05** Х/ф **«ВОЙНА МИРОВ Z».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 23 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 14.40, 19.05, 21.05, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.00** Х/ф **«СЛУЖИЛИ ДВА ТОВАРИЩА».**
**9.30** «Утрямдия».
**9.35** «Готовь как шеф».
**10.00** «Законы привлекательности».
**10.50** Х/ф **«АДМИРАЛ».**
**13.05** Х/ф **«В БОЙ ИДУТ ОДНИ СТАРИКИ».**
**14.45** «Смотрим всей семьей». «Том и Джерри».
**16.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ПРОКЛЯТИЕ ЕГИПЕТСКОЙ ГРОБНИЦЫ».**
**17.00** Х/ф **«В АВГУСТЕ 44-ГО».**
**18.50** «Цена недвижимости».
**19.10** Х/ф **«ЗВЕЗДА».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«БИТВА ЗА СЕВАСТОПОЛЬ».**
**23.15** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 17 ФЕВРАЛЯ**

**6.30** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС».**
**10.00** Х/ф **«ВСЕГДА ГОВОРИ ДА».**
**13.00** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС».**
**14.30** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**16.00** Х/ф **«ВАСАБИ».**
**17.40** Новости БЖД.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.20** На вячорки да Фядоркі.
**20.20** Х/ф **«АГЕНТ 117. МИССИЯ В РИО».**
**22.20** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 18 ФЕВРАЛЯ**

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.20, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**8.25** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**12.00** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**13.50** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС. ИГРА ТЕНЕЙ».**
**15.40** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**17.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Рядом со звездами.
**20.20** Х/ф **«СЕМЬ УЖИНОВ».**

**СРЕДА, 19 ФЕВРАЛЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00** Рядом со звездой.
**7.20** Фрагменты истории.
**8.00** Мая Радзіма.
**8.20** А знаете ли вы?
**10.00** Х/ф **«САДКО».**
**13.00** Х/ф **«РОБИН ГУД».**
**16.40** Х/ф **«ПЯТЬ НЕВЕСТ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.20** Мая Радзіма: UZARI.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 20 ФЕВРАЛЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Следопыт.
**8.20** Х/ф **«СЕМЬЯ УЖИНОВ».**
**9.50** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**12.15** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**13.45** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА».**
**16.00** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ РЕМОНТ».**
**18.25** Новости БЖД.
**19.20** Волшебная книга МЧС.
**20.20** Х/ф **«ЗАХОЧУ И СОСКОЧУ».**
**22.20** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 21 ФЕВРАЛЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00** Реликвия: сохраненные ценности.
**7.20** Фрагменты истории.
**8.00** Следопыт.
**8.20** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПАДДИНГТОНА».**
**9.50** Х/ф **«РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ».**
**12.05** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**15.40** Х/ф **«НЕРЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ».**
**17.30** Новости БЖД.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.20** На помощь приходят...Ангелы.
**20.20** Х/ф **«ХОДЯТ СЛУХИ».**
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 22 ФЕВРАЛЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30** Будьте здоровы.
**8.40** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ДЖУНГЛИ».**
**10.35** Х/ф **«АЛЕША ПОПОВИЧ И ТУГАРИН ЗМЕЙ».**
**11.55** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!».**
**13.25** Х/ф **«МАМЫ».**
**15.50** Х/ф **«ИРОНИЯ ЛЮБВИ».**
**19.30** На вячорки да Фядоркі.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.10** Новости БЖД.
**22.30** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 23 ФЕВРАЛЯ**

**6.30** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ».**
**10.00** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ДЖУНГЛИ».**
**11.25** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И ШАМАХАНСКАЯ ЦАРИЦА».**
**13.20** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ?».**
**14.55** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**16.15** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**17.50** Х/ф **«СТАТУС: СВОБОДЕН».**
**19.35** Х/ф **«ВСЁ О МУЖЧИНАХ».**
**21.35** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**

## Беларусь 1

**6.25** Х/ф **«ЗОРКО ЛИШЬ СЕРДЦЕ».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.45** Истории спасения.
**10.20** «Все за стол!».
**11.15** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«ДОМИК НА СЧАСТЬЕ».**
**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.15** Твой город.
**15.30** Маршрут построен.
**16.10** Х/ф **«НЕСОКРУШИМЫЙ».**
**17.50** Торжественное собрание и праздничный концерт, посвященные Дню защитников Отечества и Вооруженных Сил Республики Беларусь.
**19.50** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **«БУДУ ЖИТЬ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.30** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**
**9.35, 19.35** Телебарометр.
**9.40** «ЖаннаПожени». Свадебное шоу.
**10.35** «Шерлоки». Детективное шоу.
**11.30** «До свидания». Реалити-шоу.
**12.15** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.
**13.10** Х/ф **«КИЛЛЕР ПОНЕВОЛЕ».**
**14.45, 20.10** «Орел и Решка. Рай и ад». Трэвел-шоу.
**15.40** «Ужин не нужен».
**16.25** «Папа попал». Реалити-шоу.
**18.00** Х/ф **«ЗНАКОМСТВО С ФАКЕРАМИ 2».**
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.15** «Суперржена». Реалити-шоу.
**22.10** Х/ф **«СЛИШКОМ КРУТА ДЛЯ ТЕБЯ».**
**23.50** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].

## Беларусь 3

**7.10, 15.10, 20.15** Навіны культуры.
**7.30, 20.35** «Гэты дзень».
**7.35** «Звычайны цуд». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Юца.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.45** «І зноў Анiскін». Мастацкі фільм.
**15.30** «Сваімі словамі». Тэлевiктарына.
**16.10** «Славянскі базар у Віцебску-2019». Дзяніс Майданаў з праграмай «Нічога не шкада».
**17.20** «Казімір Семяновіч. Вялікае майстэрства артылерыі». Дакументальны фільм.
**18.00** «У зоне асобай увагі». Мастацкі фільм.
**19.35** «Тэатр у дэталях». Спектакль Драматычнага тэатра Беларускай Арміі «Не пакідай мяне» [СТ].
**20.00** «Архітэктура Беларусі».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Вадзіцель аўтобуса». Мастацкі фільм [СТ].
**23.20** «Арт-гісторыі». Партрэт «краіны-фронта».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** Х/ф **«ВРЕМЯ СОБИРАТЬ КАМНИ».**
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.45** Х/ф **«ДАЧНАЯ ПОЕЗДКА СЕРЖАНТА ЦЫБУЛИ».**
**11.10** «Видели видео?».
**12.30** Х/ф **«МАМИНА ЛЮБОВЬ».**
**14.15** Премьера. Вечер памяти Николая Караченцова в «Ленкоме».
**16.20** Концерт, посвященный фильму «Офицеры».
**18.10** Легендарное кино в цвете. «Офицеры».
**20.00** «Контуры».
**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».
**22.10** Премьера. «Dance Революция».
**23.55** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**0.15** «Про любовь».

## СТВ

**6.35, 1.20** «Секретные территории».
**8.15** Документальный спецпроект.
**9.05** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.00** «Неизвестная история».
**12.45** Документальный проект.
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**13.40, 16.40** Т/с **«БОЕВАЯ ЕДИНИЧКА».**
**17.40, 20.35** Т/с **«КРАПОВЫЙ БЕРЕТ».**
**19.30** «Неделя».
**22.15** «Неделя спорта».
**22.45** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».
**6.15** «Беларусь сегодня».
**6.50** Мультфильмы.
**7.50** «Культ/туризм».
**8.20** «Еще дешевле».
**8.55** «Всемирные игры разума».
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00** Новости.
**10.15** «Играй, дутар!».
**10.50, 16.15, 19.30** Т/с **«КРИК СОВЫ».**
**16.00** Погода в Мире.
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**23.30, 1.00** Т/с **«ЩИТ И МЕЧ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05** Спорт-микс.
**6.15** «Terra incognita. Беларусь неизвестная».
**6.50** «Истории ремонта».
**7.25** Д/ф «ВОИН — ЭТО ПРИЗВАНИЕ».
**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**8.20** «Однажды...».
**9.05** «Родные люди».
**9.25** «Я хочу это увидеть!».
**10.25** «Первая передача».
**11.00** «Чудо техники».
**11.55** «Дачный ответ».
**12.55** «НашПотребНадзор».
**14.15** Х/ф **«КАДЕТ».**
**16.20** «Следствие вели...».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.45** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ БОЙ».**
**23.55** Х/ф **«ЕГЕРЬ».**

## Беларусь РТР

**7.00** Х/ф **«ГЕНЕРАЛЬСКАЯ СНОХА».**
**10.20** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
**11.20** ПРЕМЬЕРА. «Устами младенца».
**12.15** ПРЕМЬЕРА. Всероссийский потребительский проект «Тест».
**13.15** Х/ф **«ПИРАТЫ XX ВЕКА».**
**15.05** Х/ф **«ЗЛОУМЫШЛЕННИЦА».**
**18.40, 21.45** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.15** ПРЕМЬЕРА. «В людях».
**22.45** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.15** Праздничный концерт ко Дню защитника Отечества. Трансляция из Государственного Кремлевского дворца.

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 13.10** Семейка Джонсов. **8.15** Авиатор. **11.35** Забытое. **14.55** Знакомьтесь, Джо Блэк. **18.15** Охотники за привидениями. **20.10** Охотники за привидениями 2. **22.05** Фрида. **0.15** Большие глаза. **2.10** Борг/Макинрой. **3.55** Хеллбой: Герой из пекла.

### TV1000 ACTION

**7.35** Неудержимые. **9.35** Неудержимые 2. **11.15** Неудержимые 3. **13.25** Без компромиссов. **15.05** Смертельная гонка. **16.55** Во имя короля: История осады подземелья. **19.05** Револьвер. **21.10** Большой куш. **23.00** Противостояние. **0.30** Страховщик. **2.50** Удача Логана. **5.10** Скалолаз.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**8.05** Гардемарины III. **10.05** Три богатыря и Шамаханская царица. **11.25** Три богатыря на дальних берегах. **12.40** Три богатыря: Ход конём. **14.00** Гуляй, Вася! **15.40** Пиковая дама: Зазеркалье. **17.20** Кандагар. **19.05** 72 метра. **21.20** Несокрушимый. **22.55, 5.30** Тихая застава. **0.45** Любовь с акцентом. **3.00** Дачный романс.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.15, 11.15, 12.15** Т/с **«ПОМНИТЬ ВСЕ». 13.15** Х/ф **«ОЗЕРО СТРАХА: АНАКОНДА». 15.00** Х/ф **«ДРОЖЬ ЗЕМЛИ: ВОЗВРАЩЕНИЕ ЧУДОВИЩ». 17.00** Х/ф **«ДРОЖЬ ЗЕМЛИ: ЛЕГЕНДА НАЧИНАЕТСЯ». 19.00** Х/ф **«ДРОЖЬ ЗЕМЛИ: КРОВНОЕ РОДСТВО». 21.00** Х/ф **«ДРОЖЬ ЗЕМЛИ: ХОЛОДНЫЙ ДЕНЬ В АДУ». 23.00** «Последний герой. Зрители против звёзд». **0.15** Х/ф **«ОЗЕРО СТРАХА: НАСЛЕДИЕ». 2.00, 2.30** «Охотники за привидениями». **3.00, 3.30, 4.00, 4.15, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00** Т/с **«ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. ЧЕРНЫЙ ЧЕЛОВЕК». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«МАМА — ДЕТЕКТИВ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«АЛЕКСАНДРОВСКИЙ САД». 4.00** Т/с **«ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. МАРАФЕТ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.10** Х/ф **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ. ПРОДОЛЖЕНИЕ». 2.10** Х/ф **«ПЯТНИЦА». 3.35** Х/ф **«ВОРЧУН». 5.20** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ». 7.25** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ 2 : КОРИДОРЫ ВРЕМЕНИ». 9.45** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ 3: ВЗЯТИЕ БАСТИЛИИ». 11.55** Х/ф **«МАЛЬЧИШНИК В ЕВРОПЕ». 14.00** Х/ф **«МАЛЬЧИШНИК ПО-ИРЛАНДСКИ». 15.50** Х/ф **«Я — МИЛЛИАРДЕР». 17.45** Х/ф **«ПРИЗРАКИ БЫВШИХ ПОДРУЖЕК». 19.40** Х/ф **«ПЯТЬ НЕВЕСТ». 21.45** Х/ф **«СТАТУС». 23.40** Х/ф **«КАНИКУЛЫ СТРОГОГО РЕЖИМА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.35, 1.35, 2.30, 3.25, 4.20, 5.15, 22.15, 23.05** Чисто английские убийства. **6.05, 7.00, 8.00** Клетка. **9.00** Шерлок: Этюд в розовых тонах. **10.50** Шерлок: Слепой банкир. **12.40** Шерлок: Большая игра. **14.30, 15.20, 16.15, 17.10** Истребители. **18.05, 19.10, 20.10, 21.15** Истребители: Последний бой.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.30, 9.20, 10.55, 11.30, 12.30, 13.55, 16.10, 17.45, 19.40, 21.05, 23.10, 23.45** Погодка. **6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **9.25** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.40** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.00** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **10.25** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **11.00, 2.30** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.35** Шоу «САРАНХЭ». **12.35, 19.45, 1.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **14.00** Х/ф **«ЗЕЛЁНЫЙ ШЕРШЕНЬ». 16.15** Х/ф **«ТОР: ЛЕГЕНДА ВИКИНГОВ». 17.50** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **21.10** Х/ф **«РАЙОН №9». 23.15** «КВН. ПА-НАШАМУ». **23.50** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **3.00** Make-over шоу «РОГОВ В ГОРОДЕ». **3.50** Скетч-шоу «ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ». **5.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**5.00** Спортивная гимнастика. Кубок мира. Мельбурн. Финалы. **8.00** Биатлон. Чемпионат мира. Антхольц-Антерсельва. Эстафета. Женщины. **9.25** Мир английской премьер-лиги. **9.55** Биатлон. Чемпионат мира. Антхольц-Антерсельва. Эстафета. Мужчины. **11.15** Фристайл. Лыжная акробатика. Кубок мира. Раубичи. Финалы. Женщины. Мужчины. **12.20** Футбол. Чемпионат Англии. Челси — Тоттенхэм. **14.20** Биатлон. Чемпионат мира. Антхольц-Антерсельва. Масстарт. Женщины. **15.15** Фристайл. Лыжная акробатика. Кубок мира. Раубичи. Синхронные прыжки. Финалы. **15.50** Пит-стоп. **16.20** Игры «на вырост». **16.50** Биатлон. Чемпионат мира. Антхольц-Антерсельва. Масстарт. Мужчины. **17.35** Спорт-центр. **17.45** Хоккей. КХЛ. Ак Барс (Казань) — Динамо (Минск). 2-й и 3-й периоды. В перерыве Спорт-центр. **19.30** Футбол. Чемпионат Англии. Арсенал — Эвертон. В перерыве Спорт-центр. **21.20, 22.00** Теннис. WTA. Доха. **0.00** Итоги недели.

### EUROSPORT

**2.10, 8.30** Велоспорт. «Тур Андалусии». 4-й этап. **2.45, 9.30** Велоспорт. «Тур Алгарве». 4-й этап. **3.25** Биатлон. Чемпионат мира. Антхольц. Женщины. Эстафета. **4.15** Биатлон. Чемпионат мира. Антхольц. Мужчины. Эстафета. **5.00** Снукер. Шут-аут. Второй раунд. **6.20** Горные лыжи. Кубок мира. Наэба. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **6.50** Горные лыжи. Кубок мира. Наэба. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. **8.00, 17.45** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Тронхейм. Гонка преследования. **10.30** Санный спорт. Кубок мира. Винтерберг. Мужчины. 2-я попытка. **11.00** Санный спорт. Кубок мира. Винтерберг. Двойки. 1-я попытка. **12.00** Горные лыжи. Кубок мира. Кран-Монтана. Женщины. Комбинация. Супергигант. **14.00** Биатлон. Чемпионат мира. Антхольц. Женщины. Масс-старт. **15.10** Горные лыжи. Кубок мира. Кран-Монтана. Женщины. Комбинация. Слалом. **16.30** Биатлон. Чемпионат мира. Антхольц. Мужчины. Масс-старт. **18.30, 21.05** Снукер. Шут-аут. Третий раунд. **20.05** Лыжные гонки. Кубок мира. «Ски Тур». Тронхейм. Мужчины. Гонка преследования. 30 км. Классика. **21.45** Снукер. Шут-аут. Четвёртый раунд.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.15** От Кавказа до Аравии. **6.30, 8.05** Трасса А2. **7.45, 10.40, 13.30, 17.00, 19.20, 0.20, 1.35, 3.30** Итоговые новости. **9.45, 5.50** Наезд! **9.55, 1.50** Тест на «Драйве». **10.25, 11.25, 2.15** Все включено. Эксклюзив. **10.55, 23.20** Возвращение легенды. **11.40** Дома на колесах. **12.00** Эконом-тест. Эксклюзив. **12.15, 13.50, 14.05** Мир танков. **14.25, 17.15** По дорогам Второй мировой. **19.35, 22.55, 2.45** Гаражная команда. **20.25, 23.50, 3.45** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **21.00, 4.10** Школа внедорожного вождения. **21.15** 9 злобных водителей. **21.50, 4.55** Вечер с Пикуленко. **22.35, 5.35** Хорошо забытое. **0.35** Сити-тестер. Эксклюзив. **1.05** Комплектация. **4.25** Автомобильные музеи мира.

### EXPLORE

**6.15, 7.10, 8.00** Невероятная рыбалка. **8.55** Большой улов. **9.50** Речные чудовища. **10.45** Строительство гигантов. **11.30** Короли разрушения. **12.25, 13.20, 14.05** Выживание в лесу. **14.55, 15.20** Нефритовая лихорадка. **15.45, 16.10** Демонтаж: Новая Зеландия. **16.35, 17.25, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30** Охотники на морских ежей. **21.15, 22.05, 22.50, 23.40, 0.30, 1.15, 2.05, 2.50, 3.40, 4.30** Австралийские охотники на лобстеров. **5.15, 5.45** Битва за карпов.

### HISTORY

**6.15, 0.15, 1.05, 1.55** Загадки Египта. **7.05, 7.55, 8.40** Запретная история. **9.30, 10.30, 18.10, 19.10** В поисках библейской истины. **11.25** Тайны римских черепов. **12.20** Последнее путешествие Романовых. **13.15** Загадка катакомб. **14.15, 15.15** Тайны мертвых. **16.15** Невидимый город Рим. **17.10** Женщина в железном гробу. **20.05** Обратный отсчет: строительство и падение Берлинской стены. **21.00** Лондон: 2000 лет истории. **21.50, 22.35** Карты убийства. **23.25, 23.50** Родовые проклятья. **2.45, 3.35** Музейные тайны. **4.20** Разгадка тайны пирамид. **5.10** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.10** Уличный ветеринар. **6.35** Мир природы — Лобо — волк, который изменил Америку. **7.30** Мир природы — радио «Гиббон». **8.25** Мир природы: морж — двухтонный клыкач. **9.20, 10.20** Дельфины — шпион в стае. **11.15, 12.10, 13.05, 14.00** Суперветеринар: Ноэл Фитцпатрик. **15.00** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **15.55** Выживание в дикой природе. **16.50, 17.15, 17.40, 18.05, 18.30, 18.55, 23.00, 23.25, 23.50, 0.15, 0.40, 1.05** Природа в кадре. **19.20** Мир природы — крылатые охотники на обезьян. **20.15** Как выживают медведи. **21.10** Земля больших кошек. **22.05** Речные чудовища. **1.30, 2.20** Жуткие, настоящие и странные. **3.10** Анатомия крупнейших животных. **4.00** Ветеринар из Йоркшира. **4.45, 5.10, 5.35** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Как побеждать во всем. **6.25, 6.50** Зона строительства. **7.15, 8.05** Суперсооружения. **8.55** Больше чем фокусы с Ди Эм Си. **9.40** Игры разума. **10.25, 11.15, 1.15, 2.05** Авто — SOS. **12.00** Истории спасения. **12.45, 15.50** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **13.30** Последние беженцы Помпеев. **14.15** Женщины-воины викингов. **15.00** Инстинкт выживания. **16.35** Антарктика. **17.20, 18.10** Война генералов. **19.00, 22.05, 22.50, 4.25** Осушить океан. **19.50, 20.35, 21.20** Суперсооружения Третьего рейха: Война с СССР. **23.40** В поисках Амелии. **2.50, 3.35** Расследование авиакатастроф. **5.15** Египет с высоты птичьего полета.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00** Охота и рыбалка в. **6.30, 22.35, 2.35** Рыбалка 360. **6.55, 10.55, 15.05, 19.00, 23.05, 3.00** Россия заповедная. **7.25, 15.35, 19.30, 23.35, 3.30** Камский спиннинг. **7.55, 3.55** Рыболовные путешествия. **8.50** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **9.25, 1.35, 5.35** Мир рыболова. **9.55, 11.30, 12.30, 13.30, 14.35, 16.05, 16.55** Две на одного. Оружие. **10.10, 11.40, 12.45, 13.45, 14.50, 16.20, 17.10** Две на одного. Снаряжение. **10.25, 18.30** Экстремальный фидер. **12.00, 20.00** Ледовые тропы рыбалки. **13.00, 17.30, 21.35** Фотоохота с Евгением Полонским. **14.05, 18.00** Рыболовная школа для взрослых. **16.40, 20.30, 5.05** Профессиональная рыболовная лига. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05, 2.05** Охота в Приволжье. **0.05** Люди дикого севера. **0.55, 4.50** Какая дичь! **1.10** Территория льда.

### УСАДЬБА

**6.00, 22.00** Легендарные братья-пекари. **6.45** Готовим на Майорке. **7.05, 19.05, 3.10** Беспокойное хозяйство. **7.35, 11.25, 15.40** Вот блин! **7.55, 19.35, 23.40, 3.40** Профпригодность. **8.25** Огород круглый год. **8.50, 20.40, 0.40, 4.50** Высший сорт. **9.05, 13.15, 17.30, 20.55, 1.00, 5.05** Дачных дел мастер. **9.40, 11.45, 14.35, 16.40** Стройплощадка. **10.10, 12.15, 13.45, 15.55** Инструменты. **10.25, 10.40** Огород круглый год. **10.55, 12.35, 15.05, 16.10** Ремонт без правил. **13.05, 17.15** Самогон. **14.05** Гвоздь в стену. **18.00, 2.10** Идеальные мастера. **20.05, 4.05** Лучки-пучки. **20.25, 4.20** Дом, милый дом! **21.25, 5.30** 10 самых больших ошибок. **22.50** 8 ошибок огородника. **23.05** Тихая моя родина. **0.10** Флористика. **0.25** Не просто суп! **1.25** Профотбор. **1.55** Домашняя косметика! **4.35** Травовед.

# Нашчадкі маёй Дубіны. Пра вёску на Валожыншчыне збіраюцца напісаць кнігу

**Улас, які жыў у Валожыне, 111 гадоў таму не вельмі добра пісаў пра маю вёску Дубіну. Ён падкрэсліў, што там жывуць кепскія людзі. Сёння нашчадкі захацелі расказаць праўду пра сваіх бацькоў і дзядоў.**




Фота mlyn.by.

### Адукаваныя і таленавітыя дубінцы

Больш як сорак дубінцоў атрымалі вышэйшую адукацыю, не менш чалавек закончылі сярэднія спецыяльныя ўстановы. А колькі вырасла ў Дубіне будаўнікоў, хлебаробаў, працавітых, сумленных і адказных людзей.

Многія выпускнікі Дубінской школы сталі настаўнікамі. Дырэктарам усё сваё жыццё працаваў **Васіль Антонавіч Рамановіч**. Гэта быў інтэлігентны чалавек, выхаваў трох дочак, якія атрымалі вышэйшую адукацыю. А яго брат **Мікалай** стаў доктарам і даў пачатак доктарскай дынастыі.

Усё сваё жыццё выкладала нам беларускую мову і літаратуру **Антаніна Аляксандраўна Вяршыцкая (Навумава)**. Цяпер яе сын працуе дырэктарам школы ў Маладзечне. Настаўніцай матэматыкі ў Дубінской школе працавала таксама наша зямлячка **Галіна Міхайлаўна Нахай**.

Дастаткова многа дубінцоў заваявалі прызнанне ў Валожыне. **Галіна Антонаўна Іванчык** працавала там настаўніцай пачатковых класаў. Усе бацькі, калі адпраўлялі дзяцей у першы клас, малілі, хто дырэктара, а хто Бога, каб яго настаўніца вучыла наша зямлячка.

Паважаны Улас, напэўна, здзівіўся б, калі б даведаўся, што Валожынскую школу №1 узначальвала **Ніна Уладзіміраўна Вайцяховіч**. **Уладзімір Піліпавіч Вашкевіч** доўгі час працаваў на Валожыншчыне намеснікам кіраўніка калгаса. У ліку галоўных спецыялістаў у Валожыне працавалі: **Міхаіл Міхайлавіч Нахай** (галоўны інжынер раённага вузла электрасувязі), **Міхаіл Сяргеевіч Мучынскі** (начальнік вузла сувязі), **Аляксандр Іосіфавіч Вайцяховіч** (дырэктар хлебазавода, а потым галоўны энергетык ДРБУ Валожына), а яго брат **Міхаіл** быў начальнікам цэха на заводзе «Спадарожнік» і дырэктарам прадпрыемства «Гарант» у Маладзечне.

Не магу не напісаць пра **Міхаіла Лазаравіча Рамановіча**, які скончыў Сасаўскае лётнае вучылішча ў Разанскай вобласці і працаваў лётчыкам. Ён быў у ліку тых, хто лятаў на Чарнобыльскую АЭС у часы аварыі. Цяпер Міхаіл пенсіянер і жыве ў Мазыры.

**Але гэта не ўвесь спіс, бо ўсіх пералічыць немагчыма, кожны заслугоўвае цёплых слоў.**

Наша зямлячка **Алімпіяда Іванаўна Зайкоўская** за сваю адданую працу настаўніцай атрымала грант фонду Сораса. Яе заўважылі не толькі ў раёне, але і ў рэспубліцы і запрасілі на працу ў Мінскі абласны інстытут павышэння кваліфікацыі педагагічных работнікаў. Яе ўлюблёнасць у працу не перашкодзіла выхаваць вельмі кемлівую дачку, якая абараніла кандыдацкую ступень і працуе загадчыцай аддзела ў лечкамісіі.

Нельга не адзначыць **Івана Уладзіміравіча Вяршыцкага**. Ён атрымаў вышэйшую адукацыю і працаваў дырэктарам завода ў Смаргоні.

Вырас у Дубіне і закончыў мясцовую школу і **Аляксандр Уладзіміравіч Мучынскі**. Калі ён хадзіў у сёмы клас, то ў Валожыне была арганізаваная выстава яго малюнкаў. Малюнкі Аляксандра размяшчаў часопіс «Бярозка», а газета «Піянер Беларусі» ўзнагародзіла яго пуцёўкай ва ўсесаюзны піянерскі лагер «Артэк» за перамогу ў конкурсе «Вось як мы малюем».

Пасля заканчэння Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі працаваў намеснікам старшыні калгаса ў Палачанах, атрымаў кандыдацкую ступень. За працу ўзнагародзілі ордэнамі «Знак пашаны» і Працоўнага Чырвонага Сцяга.

У апошні час Мучынскі працаваў прарэктарам БГАТУ на кафедры эканомікі і арганізацыі прадпрыемстваў АПК. Цяпер ён на пенсіі, але, будучы дацэнтам, працягвае чытаць лекцыі для студэнтаў.

### Дубінцы не па нараджэнні, але ўсё ж свае

Былі людзі, якія прыехалі да нас на працу па размеркаванні і ўсім сэрцам палюбілі нашу вёску і яе вяскоўцаў, знайшлі тут сваю палавінку і сталі дубінцамі. Напрыклад, **Вера Лявонцьеўна Кароль** працавала ў Дубінской школе настаўніцай хіміі і біялогіі, з Дайнавы да нас усё сваё жыццё прыязджаў выкладаць матэматыку і фізіку **Іван Мікалаевіч Ліштван**. І вось, на здзіўленне Уласу, іх не палохалі дубінцы. Дзякуючы іх самаадданасці многія з нас атрымалі вышэйшую ці сярэднюю спецыяльную адукацыю.

Я ведаю па сабе, калі вучылася ў педвучылішчы, то па арыфметыцы і прыродазнаўстве падручнікі магла не чытаць, дастаткова было ўспомніць урокі сваіх дубінскіх настаўнікаў, за што вялікі ім дзякуй.

Па размеркаванні прыехала да нас працаваць і **Тамара Уладзіміраўна Каляда**, а цяпер яна наша, дубінская. Гэта вельмі творчы чалавек. Яе ў вёсцы ўсе называюць «пчолкай», некаторыя гавораць, што гэта таму, што яна працавала пчаляром. Пчаляроў у нас было многа, а назвалі так толькі яе. Думаю, таму, што яна, як тая пчолка, заўжды чымсьці займаецца, да чагосьці імкнецца. Разам з ёй дубінскія сталыя жанчынкі памаладзелі на гадоў дваццаць.

Яна заснавала ў вёсцы музей, каб захаваць для нашчадкаў дубінскую спадчыну, арганізавала клуб «Бацькаўшчына». Была адным з арганізатараў жартоўнага калектыву «Дубінскія фанабэры», які запрашаюць на розныя фестывалі. А моладзь сама прыязджае ў госці паслухаць, як яны спяваюць. Дык хіба пасля гэтага яна прыезджая, яна ж каранямі прырасла да Дубіны.

**Леаніда Ільынічна Зайкоўская** вядзе фоталетапіс пра Дубіну, дзе адзначае ўсе цікавыя падзеі, якія адбываюцца ў вёсцы. На падвор'і **Наталлі Васільеўны Мучынскай** у вас разбягуцца вочы ад убачаных творчых знаходак і прыдумак.

Калі я бываю ў вёсцы, я люблю гуляць па гасцінцы і разглядаць падвор'і моладзі, дызайн якіх вельмі радуе вока.

**З гонарам адзначаю, што ў Дубіне жыве многа творчых, таленавітых і ўлюбёных у сваю вёску людзей.**

Калі зачытвала ўрыўкі з апавяданняў пра нашых дзядоў людзям, якія нічога не ведалі пра Дубіну, яны здзіўляліся і не маглі паверыць, што ў адной вёсцы сабралася столькі цікавых і самабытных людзей. Я ім з упэўненасцю адказвала, што гэта так, і больш таго, гэтыя таленты пакінулі пасля сябе не менш таленавітых нашчадкаў

Энтузіясты вырашылі напісаць кнігу пра Дубіну і дубінцоў. Мы запрашаем усіх, хто мае што паведаміць пра нашу вёску, далучыцца да нас. Мой тэлефон – (8-029) 107-28-11.

**Марыя МУЧЫНСКАЯ.**

---

**● КАЛЯНДАР**

**14 ЛЮТАГА**
**1956.** Пачатак XX з'езда КПСС, дзе Мікіта Хрушчоў асудзіў культ асобы Сталіна.

**15 ЛЮТАГА**
**1563.** Літоўска-расійская (Лівонская) вайна. Войскі Івана IV Жахлівага захапілі Полацк.

**16 ЛЮТАГА**
**1895.** У Пяршаях нарадзіўся **Францішак Кушаль**, беларускі вайсковы і палітычны дзеяч. Муж беларускай паэткі Наталлі Арсенневай. Абвінавачваецца ў калабарацыянізме ў час Другой сусветнай вайны.

**17 ЛЮТАГА**
**1806.** Нарадзіўся **Канстанцін Тышкевіч**, беларускі археолаг, даследчык Павілля.



**18 ЛЮТАГА**
**1386.** Вялікі князь літоўскі Ягайла ажаніўся з Ядвігай, польскай каралеўнай.



**1911.** У Індыі адбыўся першы ў гісторыі паштовы авіярэйс.

**19 ЛЮТАГА**
**1890.** У вёсцы Барані, цяпер Астравецкі раён, нарадзіўся **Казімір Сваяк (Кастусь Стаповіч)**, нацыянальны дзеяч, паэт, каталіцкі святар.



**20 ЛЮТАГА**
**1922.** Сейм Сярэдняй Літвы прыняў рашэнне пра далучэнне яе да Польшчы.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Якім быў гарналыжны курорт



На здымках – моманты адпачынку на лыжным курорце ў Баярах.

**Сярод аматараў зімовых відаў спорту вёска Баяры ў Маладзечанскім раёне была любімым месцам адпачынку цягам дзесяцігоддзяў. Распавядаем пра тое, якім быў курорт і што засталося ў памяці лыжнікаў 1980-1990-х гадоў.**

МАЛАДЗЕЧНА

Фотаздымкі таго часу мы знайшлі ў архіве доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара, загадчыка кафедры тэарэтычных асноў радыётэхнікі БДУІР **Віталя Дашанкова**. Ён шмат падарожнічаў з фотакамерай і пакінуў пасля сябе вялізны архіў фотаздымкаў і негатываў.

### Курорт на энтузіязме

Віталь Дашанкоў падарожнічаў па розных кутках Беларусі. Сярод яго здымкаў – краявіды падзеленага мяж Латвіяй і Беларуссю возера Рычы, ускраіны і будоўля метро ў Мінску, зімовыя забавы ў Баярах.

У яго падборцы адлюстравана, якім быў гарналыжны курорт больш за 35 гадоў таму ў Маладзечанскім раёне.

Вёска Баяры на Маладзечаншчыне і яе пакручастыя горы доўгі час былі адным з самых любімых месцаў зімовага адпачынку для жыхароў сталіцы і іншых аматараў лыжаў. У той час не было вядомых сёння зімовых курортаў. Сілічы пачалі працаваць у 2000-х. Раўбічы былі падладжаныя збольшага для скачкоў з трамплінаў і напачатку там не было звычайных спускаў.

Спачатку нічога не было і ў Баярах. Толькі прыгожыя мясціны і энтузіязм спартсменаў.

> **Энтузіязм і стаў падмуркам, на якім паўстала гэта культавая пляцоўка.**

Інжынеры і кіроўцы, студэнты і спартсмены рабілі гэты курорт самі. Прыдумалі сістэму, якая спрыяла хуткаму пад'ёму на гару, даглядалі мясцовасць.

### Лыжы па блаце

За савецкім часам не кожны мог сабе дазволіць знайсці дэфіцытныя горныя лыжы, тым больш імпартныя, з пластыкавым абуткам і зайздроснымі характарыстыкамі. Гэта быў прадмет асаблівай зайздрасці і гонару.

Пра тое, як знаходзілі экіпіроўку, распавядае адзін з наведнікаў баярскага курорта **Алег Бялюцін**:

– У той час усё было ў дэфіцыце. У каго была магчымасць, прывозіў з-за мяжы. Астатняе даставалі, як было прынята, па блаце. Часам нешта можна было набыць у магазіне або ў спартсменаў. Свой першы прыезд у Баяры не помню, мінула шмат год. А больш за ўсё запомніліся карнавалы, якія мы ладзілі з удзелам нашых дзяцей.

### Другі вагон

Бялюцін напісаў успаміны пра баярскі лыжны курорт, урыўкі з якога прапануем вашай увазе:

«Яр каля вёскі Баяры быў удалым месцам, недалёка ад электрычкі. Усё пачыналася на чыгуначным вакзале ў Мінску, дзе трэба было паспець на дзевяціадзінную электрычку ў бок Маладзечна.

> **Важна было прыйсці крыху раней, каб заняць месцы сабе і сябрам. Звычайна садзіліся ў другі вагон. Чаму менавіта ў другі, цяпер ужо і не ўспомніць.**

Дарога спачатку займала 50 хвілін, але па меры з'яўлення новых дачных пасёлкаў, рынку ў Ждановічах, з'яўляліся новыя станцы, і ў апошнія гады ехаць ужо трэба было гадзіну з лішнім.



> **Язда ў электрычках – занятак не з прыемных, асабліва ўзімку, калі ў вагоне бывала холадна і няўтульна.**

Але паступова прывыклі, і чыгуначная частка выезду ў «баярскія горы» стала неад'емным атрыбутам гарналыжнага абраду ў выхадныя. За гадзіну можна было абмеркаваць тыднёвыя навіны, пачытаць газеты, сфатаграфавацца.

Ад чыгуначнай станцыі да яра ісці пешшу паўтара кіламетра. Дарог туды зімой не было, пратоптвалі сцежку самі і ішлі па снезе ланцужком. У добрае надвор'е і ў свята набіралася некалькі соцень гарналыжнікаў. Выцягваліся на некалькі соцень метраў, і такое шэсце ўяўляла сабой незвычайную карціну. Гэта нагадвала хрэсны ход, дзе замест абразоў у кожнага былі лыжы.

### Як абуваліся і елі ссабойкі

Па прыбыцці на гару ўсе дружна абувалі чаравікі, што для неазнаёмленых, напэўна, ні пра што не кажа. Але для тых, хто хоць раз абуваў гарналыжныя чаравік у мароз на снезе, добра ўяўляе, як гэта на практыцы. За час пераходу ад станцыі да гары пластык замярзаў і даводзілася ўсоўваць нагу

# у Баярах













ў застылы і нягнуткі чаравік, з цяжкасцю зашпільваць кліпсы. Ногі спачатку мерзлі, але хутка адаграваліся, таму што пад'ёмнікаў на гару не было, падымацца даводзілася на лыжах лесвічкай, адначасова ўтоптваючы снег замест машыны для падрыхтоўкі трас.

Катанне было прывязанае да раскладу электрычак. Пасля прыбыцця на станцыю Баяры, пешага пераходу на гару і пераапранання першы спуск удавалася зрабіць у 11 гадзін. Большасць каталася да 13:30, каб з'ехаць назад у 14:14. Пасля з'яўлення побач дачнага пасёлка з'явілася нейкае падабенства дарогі, па якой часам атрымоўвалася прыехаць на гару на машыне.

**Але суседства з дачнікамі прыносіла больш праблем, чым карысці.**

Аднойчы энтузіясты пабудавалі пад'ёмнік, які дазволіў катацца цэлы сезон у нармальных умовах. Але ўжо летам усё, што ўяўляла цікавасць для дачнікаў, скралі. Пастаянна рабілі спробы далучыць наш яр да дачнага таварыства, што пазбавіла б нас адзінага месца для катання на горных лыжах у наваколлі Мінска. На шчасце, гэтага не адбылося.

Непасрэдна спускаў на лыжах з гары было няшмат, таму што вялікую частку часу займаў уздым наверх на лыжах лесвічкай або пешшу з лыжамі ў руках.

**Праграма знаходжання на гары абавязкова ўключала абед на снезе.**

У кожнага з нас былі ссабойкі, якія распакоўвалі і раскладвалі на імправізаваных сталах – на лыжах, перавернутых слізгальнай паверхняй уверх і складзеных разам на снезе. Часта распальвалі вогнішча, тады абед ператвараўся ў зімовае барбекю.

Раз у сезон, як правіла, на 8 сакавіка, ладзілі гарналыжнае свята з карнавалам. Усё гэта рабілі з абавязковым удзелам нашых дзяцей, якія паступова вучыліся катацца ў Баярах і папаўнялі нашы шэрагі.

Завяршэннем баярскага перыяду можна лічыць 2003 год. З наступнага сезона пачаў працаваць гарналыжны комплекс у Курасоўшчыне, затым з'явіўся цэнтр у Лагойску, а ў 2005 годзе – у Сілічах».

**Фота Віталя ДАШАНКОВА.**
**Фотаархіў знайшоў Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.**
**Тэкст падрыхтавалі Сяргей ЛЕСКЕЦЬ і Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

# Паляўнічы на рыжых беларусак, скупыя заможоўцы і рамантыка без працягу

## Тры гісторыі беларускі з замежжа і адна з Маладзечна

**Дзяўчаты распавядаюць «РГ» пра свае самыя няўдалыя спатканні.**

### Гісторыя пра індуса ў Японіі

**Ганна:**

– Першая будзе з Японіі. Там сябравала з індусам, а ў яго быў рэстаран. Я да яго прыходзіла ў госці – смачна паесці і папіць. Рэстаран быў далёка ад майго дома, таму ездзіла на таксі, якое каштавала 40 долараў у адзін бок, але ён грошы мне даваў. Я здагадалася, пачала ездзіць на метро за 1 долар, потым трэба было яшчэ пешшу прайсці. А ён па-ранейшаму даваў мне на таксі 100 $ – тыпу, туды-назад.

Былі на востраве ў Грэцыі з сяброўкай. Аднойчы пайшлі на спатканне з «Цындэра» з чувакам. Востраў невялікі, у яго была «тачка» і ён павёз нас на іншы бераг. Там мы зайшлі ў кафэ, нешта замовілі, пагаварылі. Ён пасля кажа: я паехаў, а вы самі тады дадому едзьце. І зваліў. Нам давялося ўвесь вечар шукаць, як заехаць назад, на іншы бераг вострава.

Апошняя гісторыя з Італіі. Мне было сумна, вырашыла сустрэцца з хлопцамі, каб яны павазілі па гарадах. З адным паехалі ў бліжэйшы горад. Ён паставіў машыну на платную стаянку. Пайшлі ў цэнтр, які абышлі кругамі два разы вельмі хуткім крокам. І ён кажа: «Ну, паехалі назад». А прайшло хвілін 20. Нічога не прапанаваў увогуле: ні кавы, ні гарбаты. Падыходзім да машыны: «Ой, мы былі менш за 30 хвілін, таму плаціць за паркоўку не трэба».

> **Прывёз дадому, лезе цалавацца! Карацей, была ў шоку.**

І вось пра Маладзечна. Яшчэ ў гадоў 15 мы з сяброўкамі друкавалі запіскі, на якіх была мая фотка. Ніжэй пісалі маё імя, узрост і подпіс кшталту: «Ты мне вельмі падабаешся, вось мой нумар». Хадзілі па горадзе і раздавалі. А потым сяброўкі мяне адпраўлялі сустракацца незразумела з кім. Хаця асабліва ніхто і не званіў.

### Сяргей, якому падабаюцца рыжыя і беларускамоўныя

**Аляксандра:**

– Іду па Мінску, рыжая і беларускамоўная – гэта важна. На плячы – торба з надпісам па-польску. Падыходзіць да мяне хлопец і пытаецца пра надпіс на торбе. Расказвае, што жыў у Польшчы, ведае польскую. Слова за слова, хлопец прыемны, і я даю яму свой нумар тэлефона.

Праз пару дзён пайшлі з ім на каву. Хлопец аказаўся вельмі цікавы – мае досвед жыцця за мяжой, кнігі чытае, пачуццё гумару мае, гаворыць прыгожа. Ён да мяне па-руску, я да яго – па-беларуску. З выгляду таксама сімпатычны. Але нешта было ў ім такое, што мяне напружвала. Не магу патлумачыць, што канкрэтна. Таму калі ён запрасіў да сябе ў госці, то не пайшла. Мы яшчэ пару разоў хадзілі на каву, але мяне не пакінула адчуванне таго, што нешта не так.

Праз нейкі час сустрэлася са сваёй сяброўкай. Таксама рыжай і беларускамоўнай. Кажу – прыкінь, сустрэла такога прынца, усё быццам добра, а нешта ўнутры кепскія прадчуванні. Што я за чалавек такі загонны! Панныла ёй троху, расказала пра таго хлопца. А яна пытаецца – а яго не Сяргей завуць? Я кажу – Сяргей. Ён не бялявы такі? Бялявы.

> **Яна пакапалася ў тэлефоне і паказвае мне фота ў сацсетках – ён?**

Я ўся ў шоку – адкуль ты ведаеш?

Яна кажа – ён пару месяцаў таму да яе на вуліцы падышоў пазнаёміцца. Пагаварылі, і яна пайшла да яго дамоў. У яго пакоі ўсё было ў нейкіх духмянасцях і індыйскіх штучках, у суседнім – яго бацькі глядзелі тэлевізар. Ён адразу пачаў прыставаць, і яна хутка сышла. Пабегла да сяброўкі расказаць, якога дзівака сустрэла. Сяброўка была адгадайце якая? Ага, рыжая і беларускамоўная. Выслухала маю сяброўку і задала ёй тыя ж пытанні, што і яна мне. Сяргей? Бялявы? Аказалася, што ланцужок гэты не мае канца і краю.

### Сустракаць світанак пад гукі піяніна і віно

**Анастасія:**

– У мінулым годзе быў такі складаны графік, што на рамантычныя сустрэчы проста не хапала часу. Аднаго дня пасля працы зайшла ў гандлёвы цэнтр і там сустрэла хлопца, з якім вучылася ва ўніверсітэце. Мы паразмаўлялі, выйшлі на вуліцу, я збіралася пайсці на прыпынак, а ён прапанаваў мяне падвезці.

Едзем па сталічным праспекце да мяне дадому, вельмі міла ўспамінаем універ. Гутарым аб нечым неабавязковым, што тады здавалася вельмі важным. Я і не заўважыла, што мы амаль гадзіну ўжо як прыехалі. Збіраюся пайсці, а ён – заставайся. Дастаў нейкія шакаладныя цукеркі і шампанскае з багажніка. Яшчэ падумала, чаму яны там увогуле ляжалі. Я выпіла шампанскага, паела цукерак і зноў збіраюся пайсці.

А ён – паехалі да мяне. Гутарка была цікавая, кампанія мне падабалася, таму я паехала з ім. Прыехалі да яго ў кватэру. Ён музычны хлопец, таму мы разам спявалі, а ён іграў на піяніна. Пілі віно, распавядалі адзін аднаму пра свае планы на будучыню. У яго яшчэ такі від з акна на Мінск на досвітку быў! Рамантыка.

> **Карацей, прагутарылі ўсю ноч пад віно і музыку. Раніцай ён адвёз мяне дадому, таму што трэба было ісці на працу.**

І самае галоўнае – больш ён мне ніколі не патэлефанаваў і мы не сустракаліся. Так і не зразумела, што пайшло не так.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



Фота tut.by.

Андрэй Дударчык на конкурсе.

# Віляйчук заняў другое месца ў міжнародным конкурсе барадачоў

**8 лютага ў Мінску зладзілі Міжнародны фестываль барадачоў і вусачоў Beard & Moustache Competition. У ім удзельнічаў віляйчук Андрэй Дударчык. Ён заняў у сваёй намінацыі другое месца.**

ВІЛЕЙКА

Паўдзельнічаць яму параіла жонка **Марына**. Яна ўбачыла інфармацыю пра фестываль у сацыяльных сетках.

Пра ўражанні ад фестывалю спадар Андрэй падзяліўся з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты»:

– Конкурс у Мінску ладзілі ўпершыню. Арганізатары – Міжнароднае брацтва барадачоў і вусачоў. Удзельнікаў было каля 90. Людзі з розных краін: былі ўдзельнікі з Даніі, Швецыі, Японіі, Расіі, Бразіліі.

Па словах Андрэя Дударчыка, барадачы і вусачы змагаліся ў дзевяці катэгорыях. Катэгорыя «Барада Гарыбальдзі», у якой удзельнічаў суразмоўца, была самай шматлікай. Былі яшчэ намінацыі «Натуральныя вусы», «Бародка», «Барада са стылізаванымі вусамі». А са штучнымі вусамі можна было ўдзельнічаць нават жанчынам.

Спадар Андрэй адзначыў свабодную атмасферу на мерапрыемстве і дух братэрства, які адчуваўся вельмі востра, хоць усіх удзельнікаў віляйчанін бачыў упершыню. А яшчэ – прыязныя адносіны арганізатараў да ўсіх удзельнікаў.

– Два прадстаўнікі Японіі першы раз прыехалі ў Еўропу. Яны не перамаглі, бо ў японцаў на генетычным узроўні барада не вельмі добра расце. Але арганізатары паклікалі іх на сцэну, падзякавалі за ўдзел і за ўвагу да дзейнасці Міжнароднага брацтва барадачоў і вусачоў.

Удзельнік з Вілейкі быў у казацкім мундзіры. Але былі і іншыя касцюміраваныя барадачы і вусачы: нехта – у касцюме Мікалая Другога, нехта – у беларускай вышыванцы.

Конкурс ладзілі проста: абʼяўлялі ўдзельнікаў пад нумарамі, а яны дэманстравалі свае бароды або вусы. Кожнаму ставілі балы. Калі некалькі ўдзельнікаў набіралі аднолькавую колькасць, іх пераацэньвалі.

– Гэта вельмі правільны падыход, – лічыць пераможца. – Не было ніякіх візітовак і мастацкіх нумароў. Журы ацэньвалі выключна тое, што павінны былі ацэньваць – вусы і бароды.

У склад журы ўвайшлі прафесійныя майстры барберынгу, уладальнікі барбершопаў, удзельнікі сусветных чэмпіянатаў барадачоў.

Андрэй Дударчык падзяліўся, што ў наступным годзе, калі будзе магчымасць, таксама паўдзельнічае ў фестывалі. А яшчэ падцягне іншых знаёмых барадачоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота vk.com/id401069998.

Андрэй Дударчык (злева) з іншымі ўдзельнікамі конкурсу.




Падарунак за другое месца.

## Як у садку гадуюць маленькіх артыстаў

СМАРГОНЬ

Маленькіх артыстаў выхоўваюць у смаргонскім садку-яслях №13.

Тэатралізаваныя гульні развіваюць творчую самастойнасць і эстэтычны густ, уяўленне і фантазію дзяцей, папаўняюць слоўнікавы запас, вучаць весці дыялог з партнёрам.

Днямі маленькія акцёры сярэдняй групы парадавалі гледачоў садка казкай «Церамок». У кожнага дзіцяці была свая роля. Яны пераўвасабляліся ў казачнага героя. І на прыкладах сваіх персанажаў вучыліся не баяцца цяжкасцяў, перадольваць нясмеласць і няўпэўненасць у сабе. Падчас ігры ў спектаклі актывізаваўся іх творчы патэнцыял.

**На рэпетыцыях дзеці вучыліся прамаўляць словы выразна і гучна. Дашкольнікі былі сапраўднымі артыстамі на нашай імправізаванай сцэне ў музычнай зале.**

Прадстаўленне атрымалася адметным, цікавым і вясёлым. Гледачы з задавальненнем апладзіравалі маленькім акцёрам за творчасць! А дзеці, бачачы ўсмешкі на тварах гледачоў, разнявольваліся і гралі свае ролі «на ўра».

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ, намеснік загадчыцы па асноўнай дзейнасці садка-ясляў №13 горада Смаргоні.**

## Што чуваць на вадаёмах рэгіёна

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Ужо некалькі дзён лютага ў рэгіёне стаяць невялікія маразы. Мы звязаліся з выратавальнымі станцыямі на Вілейшчыне і Мядзельшчыне і даведаліся, ці зʼявіўся лёд на вадаёмах.

На Вілейскім вадасховішчы лёду па-ранейшаму няма. Атрымлівецца, што ад пачатку зімы вадаём і не пакрываўся лёдам. Адпаведна, няма і здарэнняў, расказалі ў выратавальнай станцыі на Вілейшчыне.

Падобная сітуацыя і на Мядзельшчыне. Лёдам пакрытыя толькі маленькія лясныя азёры. Вялікія ж – Нарач, Мястра, Мядзел – па-ранейшаму без лёду.

Як расказалі мядзельскія спецыялісты, рыбакі да апошняга рыбачылі з лодак. Толькі цяпер, калі невялікі мароз, іх не відаць. Ніякай забароны ўводзіць не плануем, бо сэнсу пакуль няма, адказалі тут.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вілейскі раённы ЦКРН атрымаў грамату ад Міністэрства адукацыі

5 лютага падчас выніковай калегіі Міністэрства адукацыі Беларусі ўзнагародзілі лепшыя ўстановы адукацыі краіны, паведамляюць у Галоўным упраўленні па адукацыі Мінаблвыканкама.

Адным з лепшых па выніках дзейнасці ў 2019 годзе прызналі Вілейскі раённы цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі. Кіраўнік – **Святлана Святаславаўна Клямячыц**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Школьныя музеі рэгіёна сталі лепшымі ў Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Днямі падвялі вынікі рэспубліканскага конкурсу школьных музеяў. У ім удзельнічала 350 педагогаў з усёй Беларусі. Сярод пераможцаў ёсць музеі школ нашага рэгіёна.

Гэта школьны народны музей «Ільянскія далягляды» Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця. Музей заняў першае месца ў намінацыі «Інавацыйныя формы арганізацыі навукова-даследчай дзейнасці навучэнцаў». Кіраўнік музея **Люцыя Маркевіч**.

**У гэтай жа намінацыі серабро ўзяў музей Нацыянальнага дзіцячага цэнтра «Зубраня». Кіраўнік Вольга Джанаева.**

У намінацыі «Віртуальная экскурсія па экспазіцыі музея ўстановы адукацыі» трэцяе месца заняў музей Радашкавіцкай школы-інтэрната. Педагогі **Зоя Макляк** і **Вольга Торліна**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Інфраструктура ёсць, а турніры па аматарскім валейболе не ладзілі

**У Маладзечне ў студзені зладзілі аматарскі турнір па валейболе. Пра яго «РГ» распавёў Валер Лях, які арганізаваў спаборніцтвы, а таксама падзяліўся гісторыяй пра развіццё аматарскага валейбола.**



Фота забяспечанае Валерам ЛЯХАМ.

Спаборніцтвы на маладзечанскім зімовым турніры.

### Як нарадзілася ідэя аматарскіх турніраў

Валер – непрафесійны валейбаліст, гуляў з дзяцінства. Ён пражыў 13 гадоў у Мінску, а калі вярнуўся ў 2013-м, то ўзнікла ідэя спаборніцтваў у Маладзечне.

– У нас нічога на аматарскім узроўні такога маштабу не праводзілі, але ўся інфраструктура ёсць. Маладзечанскія каманды запрашаюць у Смаргонь, Ашмяны, Мінск, Мядзел, Валожын, Івянец, Вілейку, а мы не запрашаем. Так і нарадзілася ідэя ладзіць турніры.

Валер кажа, што валейбольныя спаборніцтвы пачалі праводзіць у 2015 годзе. Ён займаецца масавым аматарскім валейболам. Зладзіць турнір у горадзе па пляжным або класічным валейболе, паказаць Маладзечна на рэгіянальных, рэспубліканскіх або міжнародных ветэранскіх турнірах – гэта ўсё да яго.

– Валейболам цікавіцца ўсё больш людзей. Раней была праблема сабраць на трэніроўку дзве каманды, а вось тыдзень таму набралася па 20 і больш чалавек – гэта тры каманды.

### Зімовы маладзечанскі турнір-2020

Спаборніцтвы праходзілі ад панядзелка да суботы ў спартыўных залах Маладзечна – ад 20 да 25 студзеня. У гэтым годзе ў турніры прынялі ўдзел дзесяць камандаў, адна з іх была з Ашмянаў. Па словах Валера, галоўнае было – зрабіць каманды роўнымі па сілах.

– Праца перад турнірам пачынаецца за тыдзень. І яе вельмі шмат. Ты думаеш, каб не было праблем, праколаў, – падзяліўся Валер.

10 камандаў падзялілі на дзве групы. Валейбольныя калектывы гулялі групавыя матчы, а потым так званыя «крыжы» з камандамі з іншай групы. Першае месца заняла каманда Энергазбыту, другімі сталі валейбалісты вайсковай часці, трэцяе месца занялі прадстаўнікі Маладзечанскіх электрычных сетак.

Валер распавядае, што турнір быў мужчынскі, але ў дзвюх камандах гулялі дзяўчаты.

– Калі нехта хацеў уключыць у сваю каманду дзяўчыну, то пытанняў ніякіх не ўзнікала.

Матчы судзілі суддзі з Маладзечна – **Аляксандр Галавач**, **Цімафей Каўбасюк** і сам Валер Лях.

Залы прадстаўлялі каманды, дзе яны трэніруюцца. А фінал прайшоў у спарткомплексе каманды «МЭС».

– Хацеў бы падзякаваць ФСК «Аганёк» за пастаяннае спрыянне ў правядзенні турніраў, – казаў Лях.

### Пляжны валейбол таксама бывае аматарскім

У бліжэйшы час аматарскіх спаборніцтваў па валейболе ў Маладзечне не плануецца. Летам збіраюцца правесці турнір па пляжным валейболе на пляцоўцы ў парку. Валер распавядае, што каманды збірае праз інтэрнэт у вялікай суполцы ў сацсетцы.

– Нікому не адмаўляю. Хто хоча прыехаць і гуляць – заўсёды чакаем. Калі прыязджаюць гульцы прафесійныя, то гэта будуць матчы з гандыкапам. Напрыклад, матч пачынаецца з лікам 10:0, значыць, мы ўраўноўваем сілы.

Валер лічыць, што выбіраць паміж пляжным валейболам і класікай – справа густу. Калі ў пляжным 50% поспеху ці віны залежаць ад цябе, то ў класічным валейболе ты можаш разлічваць на іншых пяць гульцоў.

– Яшчэ ж прырода, пясок і сонца. Мне пляжны валейбол падабаецца гэтым больш.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

---

## Міністр спорту Сяргей Кавальчук наведаў Ашмяны

У рамках візіту Сяргей Кавальчук 7 лютага пабываў у дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе імя Барбашынскага і ў футбольнай акадэміі «Дынама-Брэст».

За трэніровачным працэсам ён і тыя, хто яго суправаджаў – старшыня Ашмянскага райвыканкама **Уладзіслаў Гершгорын**, начальнік упраўлення спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама **Алег Андрэйчык**, намеснік старшыні Ашмянскага райвыканкама **Наталля Станкевіч**, – засталі і юных цяжкаатлетаў.

**Паводле osh.by.**

## Ашмянка перамагла на Кубку Гродзенскай вобласці па цяжкай атлетыцы

У Гродна праходзіў Кубак Гродзенскай вобласці па цяжкай атлетыцы і першынство сярод моладзі да 23 гадоў.

У спаборніцтвах удзельнічала каманда з Ашмянскага раёна. 14-гадовая выхаванка **Міхаіла Станкевіча** майстар спорту па паўэрліфтынгу **Лізавета Матарас** перамагла ў першынстве ў сваёй узроставай катэгорыі да 23 гадоў. На вышэйшую прыступку п'едэстала ўзнялася яна і ў Кубку вобласці сярод дарослых і апярэдзіла сваіх сапернiц у суме двухбор'я на шэсць кілаграмаў.

**Паводле osh.by.**

## АБФФ дапусціла «Маладзечна» да ліцэнзавання ў першай лізе

У Доме футбола 3 лютага адбылося чарговае пасяджэнне выканаўчага камітэта АБФФ. **Андрэй Мішаеў** прапанаваў да абмеркавання рашэнне па хадайніцтве футбольнага клуба «Маладзечна» аб непрымяненні да яго асобных патрабаванняў рэгламенту АБФФ па ліцэнзаванні і кантролі дзейнасці клубаў у сезоне 2020 года. Аб гэтым паведамляе прэс-служба федэрацыі.

У прыватнасці, футбольны клуб «Маладзечна», які выступаў у другой лізе сезона-2019, не з'яўляецца членам АБФФ. Па дакументах федэрацыі, каманда без падобнага членства не можа быць дапушчаная да працэдуры ліцэнзавання ў першай лізе. Таму клуб, які заваяваў права на павышэнне ў класе, звярнуўся да выканкама з просьбай аб непрымяненні да каманды дадзенага патрабавання рэгламенту аж да сакавіцкай канферэнцыі АБФФ. Удзельнікі пасяджэння адобрылі хадайніцтва.

**by.tribuna.com.**

## Баксёр-маладзечанец Дзмітры Асанаў атрымаў золата на турніры ў Венгрыі

Беларускі спартсмен маладзечанец Дзмітры Асанаў заваяваў залаты медаль на прэстыжным міжнародным турніры па боксе «Мемарыял Іштвана Бачкаі», які прайшоў у венгерскім Дэбрэцэне.

Асанаў (вагавая катэгорыя 63 кг) у першым паядынку перамог аднагалосным рашэннем суддзяў казаха **Санаталі Тальтаева**. У наступным крузе спаборніцтваў баксёр з Маладзечна паспяхова адолеў **Трэжара Марэні** з Батсваны. У паўфінальнай стадыі сапернік Дзмітрыя Асанава венгр **Мілан Фадор** не выйшаў на бой. У паядынку за залаты медаль беларус аказаўся мацнейшым за атлета з Венгрыі **Рычарда Ковача**.

**belta.by.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Ваяўнічы буржуазны нацыяналізм, які прапаведуе выключнасць адной нацыі і пагарду да іншых, распальвае нацыянальную варожасць.
2. Вязкая маса рознай кансістэнцыі, якая атрымліваецца пры змешванні мукі з вадкасцю.
4. Месца на целе, пашкоджанае агнём.
6. Старажытнаегіпецкая загадка. Пачвара пажырае ўсё, што знойдзе. А калі насыціцца ежай, памірае разам з ёй.
9. Камплект друкарскіх літар пэўнага памеру і формы.
10. У 1666 годзе пажар знішчыў Лондан. Існуе паданне, што агонь знішчыў наступствы іншай лонданскай бяды, пасля чаго яна ўжо не вярталася ў брытанскую сталіцу.
11. Дзеяч 19 стагоддзя, дыпламат і вучоны, даследчык Японіі і Кітая. Помнік яму стаіць у Японіі і Астраўцы. Яго імем назвалі заліў у Карэі і некалькі відаў рэдкіх насякомых.
16. Уладзімір Някляеў: «Што нам да неба – і яму да нас?.. Так ..., нібы ў апошні раз Ляцім у снах – абдымкамі ў абдымак...».
17. У адной з беларускіх легенд расказваецца, як чортназбіраў пот, кроў і слёзы, наліў поўны кацёл і зварыў гэта. Пасля пусціў па свеце, каб поту, крыві і слёз стала яшчэ больш.
19. Адна з форм вытворчых адносін, якая заключаецца ва ўзаемным адчужэнні прадуктаў працы і іншых аб'ектаў уласнасці на аснове добраахвотнага пагаднення.
20. Самы распаўсюджаны падарунак на Дзень закаханых.
24. Адной з першых валянцінак лічыцца паштоўка, якую адправіў герцаг Арлеанскі Чарльз з тауэрскай турмы. Запіска захоўваецца ў Брытанскім музеі. Хто атрымальнік запіскі?

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Галаўны ўбор, звычайна цёплы і мяккі.
2. У шахматнай гульні – вымушаны, нявыгадны ход.
3. Металічны або драўляны стрыжань з вастрыём на канцы, прызначаны для змацавання чаго-небудзь.
5. Рыгор Барадулін: « Я Вас чакаў з вясны да ..., Як вечны вязень раніцу чакае. І Вы прыходзілі парою ў сны, Далёкая, як зорка трапяткая».
7. Сумесь тлушчу з лекавымі сродкамі для ўцірання ў скуру або для намазвання яе.
8. Буйны феадал, памешчык у некаторых краінах Еўропы.
9. Тонкая вяровачка, звітая з некалькіх кручаных нітак ці некалькіх пасмаў.
12. Кожная з дзвюх сіметрычных, замацаваных на падстаўцы або навешаных на восі частак вагаў у выглядзе талерак, на адной з якіх кладзецца груз для ўзважвання, на другой – гіры.
13. Від азартнай карцёжнай гульні.
14. Італьянскі горад, у якім каханне напаткала Рамэа і Джульету.
15. Сіла, якая дзейнічае на адзінку плошчы перпендыкулярна да паверхні цела.
18. Смеласць, рашучасць, бясстрашнасць.
21. Грашовае выражэнне вартасці тавару.
22. Спіртавы раствор розных пахучых рэчываў, вядомы як асвяжальны гігіенічны сродак.
23. Існуе музычны інструмент трохвугольнік. На народных беларускіх святах замест яго выкарыстоўвалі бытавы прадмет, без якога няма ні добрай дарогі, ні шчасця ў новым доме.

## Адказы на крыжаванку з №6

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Боль. 2. Радзіма. 6. Курган. 9. Біцэпс. 10. Коўдра. 11. Кухня. 12. Юнак. 13. Дэталь. 14. Краіна. 19. Яечня. 20. Юрыст. 22. Юшка. 24. Двор. 25. Розум. 26. Нізіна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Беспарадак. 3. Дэпутат. 4. Бліск. 5. Руда. 7. Рукапіс. 8. Сіндыкат. 11. Клятва. 15. Дэфіцыт. 16. Ножка. 17. Нядзеля. 18. Блат. 21. Нагар. 23. Работа. 24. Дыскусія. 27. Ноч.



● ГАРАСКОП НА 14-20 ЛЮТАГА

## Як вы кахаеце


**АВЕН.** Моўчкі пакутаваць ад кахання – не пра вас. Вы цалкам аддаяцеся пачуццям, і іншы бок не зможа выстаяць перад такім напорам. Авены верныя і рады пражыць з адным чалавекам усё жыццё. Але толькі ў тым выпадку, калі гэты саюз роўных.


**ЦЯЛЕЦ.** Для вас галоўнае – адчуваць бяспеку побач з каханым. Вы не будзеце праяўляць свае пачуцці вельмі эмацыйна і напаказ. Абавязкова пакажаце аб'екту пачуццяў, як шмат у вас пяшчоты. Цяльцоў цікавяць моцныя сур'ёзныя адносіны.


**БЛІЗНЯТЫ.** Вы супярэчлівыя і любіце рабіць для каханых штосьці знянацку, ладзіць сюрпрызы. Калі кахаеце, то акунаецеся ў пачуцці з галавой. Калі выбіраеце партнёра, то змагаецеся за адносіны і цэніце сям'ю вышэй за ўсё.


**РАК.** Ракі – тыя, з кім магчыма адчуць ідэальнае каханне. Таму тым, хто абірае пару сярод Ракаў, вельмі пашанцавала. Пачуццёвасць дазваляе разумець партнёра без слоў і прымаць з усімі дзівоцтвамі. А ў падзяку за гэта атрымліваюць такія знакі ўвагі і пяшчоты, ад якіх проста квітнеюць.


**ЛЕЎ.** Ільвы вельмі любяць сябе, а да партнёра ставяцца, як да важнай часткі сябе. Вы аберагаеце і песціце другую палову. Упэўненасць у сабе вельмі важная, і яе павінны сілкаваць у тым ліку рамантычныя адносіны. Ільвы пасля разрыву хутка знаходзяць новыя адносіны.


**ДЗЕВА.** Незалежны і самадастатковы знак. Для вас важней пры выбары партнёра ацаніць яго розумам. Калі аналітычную праверку ён або яна не праходзіць, то не зможа запаліць ніякі агонь кахання.


**ШАЛІ.** Цярплівы знак, які любіць, каб усё было спакойна і мірна. Калі знаходзяць свайго чалавека, то імкнуцца растварыцца ў ім. Многія прадстаўнікі знака рады ахвяраваць нечым сваім дзеля каханых.


**СКАРПІЁН.** Рашучасць – ваша магутная зброя. Выбіраюць партнёраў Скарпіёны сэрцам і прыгожа дэманструюць свае пачуцці. Адносіны са Скарпіёнамі гарачыя і поўныя прыгодаў, таму вашы партнёры нібы набываюць білет на атракцыёны. Гэта і робіць вас такімі прыцягальнымі.


**СТРАЛЕЦ.** Часта вы спантанныя і імпульсіўныя, што робіць вас цікавымі ў каханні. Партнёр павінны быць з вамі падчас прыгодаў, каб падзяляць эмоцыі ад усяго, што напаткае вас. Вам вельмі важна знайсці свайго чалавека.


**КАЗЯРОГ.** Вы рэалісты і ў жыцці, і ў каханні. Практычнасць дапамагае вам у асабістым жыцці. Вы прыглядаецеся да будучага партнёра і не будзеце рабіць крок, пакуль не ўпэўніцеся, што гэта менавіта той чалавек, які патрэбны вам.


**ВАДАЛЕЙ.** Вам складана адкрыцца незнаёмцам. З большасцю знаёмых падтрымліваеце паверхневыя адносіны. Чалавек, у якога можа закахацца Вадалей, павінны ўмець ісці на кампрамісы, любіць свабоду і мець мноства захапленняў.


**РЫБЫ.** Раскрываюцца Рыбы ў адносінах паступова. Вашы пачуцці глыбокія, і ніякія дробныя інтрыжкі не цікавяць. Вельмі важна, каб другая палавінка была паблізу.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 4 | 9 | | 2 | 6 |
| | | 5 | | 6 | | 1 | 8 | |
| | 2 | 6 | | | | 9 | | 3 |
| | | | 5 | 8 | 1 | | | |
| | 8 | | 6 | | 3 | | | |
| | | | | 7 | 2 | | 3 | |
| 3 | | 9 | | 1 | | | | 7 |
| | | 2 | | | | | 4 | |
| 7 | | | | | 5 | | | 1 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by



● #РГ25

# Уладзімір Някляеў прысвяціў верш «Рэгіянальнай газеце»

"РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕЦЕ"
юбілейнае віншаванне

З усіх газет людскога свету
Люблю газету толькі гэту,
Ніякай не хачу замест!
Рэгіянальная газета –
Але арыгінальны змест!

Уладзімір Някляеў


Фота belpravda.org

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама посціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Для садаводаў і агароднікаў друкуем працяг нашага традыцыйнага месяцавага календара. Тут звесткі пра праходжанне Месяцам знакаў задыяка ў 2020 годзе, квадры Месяца і садоўніцтва і агародніцтва ў залежнасці ад Месяца.**

## 15 лютага, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 4-5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -23,4°С у 2011 годзе
Максімальная тэмпература +3,6°С у 2017 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,3 мм у 1978 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## «Рэгіянальная газета» – цёплыя навіны ў зімовы дзень



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што вы хацелі б у падарунак ад каханага чалавека?



**Аксана Францкевіч, адміністратар, Маладзечна:**
– Букет рамонкаў, таму што гэта мае любімыя кветкі. І ён гэта, думаю, зробіць. Але і сюрпрыз таксама будзе.



**Людміла Тубіліс, беспрацоўная, Смаргонь:**
– Каб любіў, паважаў, шанаваў – я лічу, што гэта самы лепшы падарунак ад каханага чалавека.



**Дзяніс Васільеў, будаўнік, Маладзечна:**
– Хачу ў падарунак пацалунак, а сам падару ружы.



**Вольга Карабко, гаспадыня, Маладзечна:**
– Хацелася б рамантычнай вячэры падчас паездкі па гістарычных мясцінах: у манастыры Панагія Сумела на скале Трабзон ў Турцыі ці ў Мардзіне.



**Ірына Піскуровіч, повар, Вілейка:**
– Мы ўжо шмат гадоў у шлюбе, таму хацелася б які-небудзь сюрпрыз.



**Вадзім Вірынскі, кіроўца, Маладзечна:**
– Хачу каб мая каханая Алена жыла 150 гадоў, гэта будзе найлепшы падарунак ад яе.



**Алена Мазура, гаспадыня, Маладзечна:**
– Набор добрых каструляў.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№7 (1294) 14.02.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 253. Падпісана ў друк у 9.00 13.02.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.